# ЗЬМЕСТ.



1-я Дзяржаўная друкарня. Зак. № 2312. У ліку—1800 Галоўлітбел № 1257.

ЦЕНТР. ГОСБИБЛИОТЕКА Т.С.С.Р.
Инв. №: 102

Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# ПЛУГ

Навукова-популярная часопісь сельскай і лясной гаспадаркі

Выходзіць раз у месяц

IV год выданьня | Май 1928 г. | № 5

## Увага торпу!

Беларусь мае каля 2.663.020 гэктараў балот [1]). Пакольки гэтыя балоты не асушаюцца, не скарыстоўваюцца,—пастолькі яны зьяўляюцца гаспадарчым ліхам, непатрэбным зямельным баластам. Балоты пагоршваюць клімат мясцовасьці, робяць яго сырым, а ад гэтага распаўсюджваюць цяжкую хваробу—*малярыю.*

Акрамя таго, балоты не дазваляюць мець добрыя дарогі, таму што праводзіць іх па балотах цяжка.

*Але няўжо ня можна палучыць ад іх ніякай карысьці? Асабліва сялянам-земляробам, якія жывуць блізка балот?..*

Напэўна можа. Але для гэтага селянін павінен ведаць, што трэба зрабіць з балотам (і як зрабіць), каб палучыць карысьць.

Шмат сялян ужо ведаюць, што з балота можна дабыць торп для апалу, торп для падсьцілкі жывёлы і торп для ўгнаеньня палёў і сенажацяў. Выходзіць, што торп можна з посьпехам ужываць для засыпкі выграбных і памойных ям і для засыпкі сьцен пры пабудовах, а таксама падлогаў і столяў, каб зрабіць жылыя памяшканьні цёплымі і ў шмат іншых выпадках дамовага ўжытку.

А навукай і практыкай ужо ўстаноўлена, што з торпу можна палучаць (як і з дрэва)—тарпяны вугаль, дзёгаць і газы для гарэньня. З гэтага дзёгцю можна палучыць газавае масла, парафін (для сьвечак), крэазот (лекавыя сродкі); а з дзягцярнай вады можна палучаць дрэўны сьпірытус, аміак для ўгнаеньня і воцатную кіслату.

Далей, торп можа ісьці на выраб віннага сьпірытусу, прычым з 100 клг. ($6^1/_2$ пуд.) сухога торпу палучаецца $6^1/_2$ вёдзер сьпірытусу ў $90^0$.

Добра торп ужываць там, дзе трэба захоўваць прадукты ад замерзаньня (яблыкі, бульба, гародніна), альбо захоўваць ад гнілі прадукты, якія псуюцца—рыбу, мяса, яйцы.

З посьпехам можна ўжываць торп у медыцыне, замест ваты, пры перавязках—ён не распаўсюджвае заразы і ўпітвае кроў, якая цячэ з ран, ці гной які цячэ з балячак і нарываў. Можна ўжываць торп дзеля набіўкі сяньнікоў і дзеля вырабу танных тканін і фарбаў.

Торп розна ўжываецца пры будоўлі: ён кладзецца замест моху паміж бярвеньнямі, яго закладаюць у сярэдзіну паміж цагельнымі сьценамі, торп ідзе на выраб асобнай „тарпяной фанэры", якая ўжываецца для пабудовы ўнутраных перагародак у жылых будынках і г. д. і г. д.

Паглядзім-жа што яшчэ больш можна зрабіць з торпу.

*Торп, як апал.* Торпу на апал у Беларусі к гэтаму часу налічваецца да 900.000.000 (дзевятсот мільёнаў) пуд. Гэта не дакладна, бо

[1]) Па даных вуч. сэкратара Тэхн. Камітэту Інж. С. П. Міхайлава.

сапраўды, яго зразумела больш. Каля кожнай вёскі, ва ўсякім выпадку ня далей 5—10 вёрст, заўсёды ёсьць балота, якое можна скарыстаць для дабычы торпу на апал.

Калі мы падлічым запасы ўсіх лясоў Беларусі, дык выйдзе, што ў іх драўніны столькі-ж колькі і торпу ў балотах.

Але ськсечаны лес патрабуе для свайго аднаўленьня 80—100 гадоў пры клапатлівым даглядзе за маладымі насаджэньнямі. Таму трэба лес хаваць, і там, дзе толькі ёсьць магчымасьць яго замяніць чым-небудзь— асабліва торпам,—трэба імкнуцца да гэтага.

Тады тое, што мы лічым зараз гаспадарчым ліхам, будзе для нас *багацьцем.* Лес трэба нам для пабудоў, для розных вырабаў у гаспадарцы і, лес патрэбен нам, як каштоўны матар'ял для гандлю з заграніцай: прадаючы лес, мы маем магчымасьць здабываць там патрэбныя машыны для сельскай гаспадаркі і прамысловасьці.

Торп здабываецца проста, не патрабуе амаль ніякіх грашовых затрат, а толькі працы.

*Будзем-жа скарыстоўваць торп на апал, узамен дорага каштуючага і цяжка выгадоўваемага лесу.* Тым больш, што ён гарыць таксама добра ў звычайных печах, як і дровы, а часта дае цяплыні нават больш, чым дровы.

*Торп, як падсьцілка для жывёлы.* Жывёла ў сялянскай гаспадарцы трымаецца рэдка па правілам, якія дае навука. Селянін мала зьбірае збожжа, і намалачвае мала саломы. А калі салома і ёсьць, дык яна ідзе ў корм жывёле, бо мала сенажацяў, а таму ў гаспадарцы кармоў заўсёды не хапае.

Жывёла стаіць на голай зямлі альбо на голай падлозе, уся ўпэцканая ў гной; паветра ў стойлах і канюшнях цяжкае, пахне нашатырным сьпіртусам і гноем; падлога халодная, асабліва ад замёрзлай жыжкі. У выніку такога ўтрыманьня, жывёла часта хварэе. А калі жывёла хварэе, дык яна дае меньш і малака, і мяса, і меньш працаздольна. Гэта шкодна для сялянскай гаспадаркі і проста нявыгодна.

*Ці няма спосабу, якім магчыма было-б замяніць недахоп саломы для падсьцілкі і ўтрымоўваць жывёлу ў чыстаце?*

*Выходзіць што ёсьць:* на дапамогу прыходзяць тыя-ж *балоты,* той-жа *торп...*

Торп зьяўляецца самай лепшай падсьцілкай для жывёлы і вот чаму: ён дае цёплае лёжа для жывёлы, ён утрымлівае мачу, якая каштоўна для ўгнаеньня палёў; таму пры ўжываньні торпу падлога скотных двароў заўсёды сухая.

Калі мы параўнаем розныя падсьцілкі, якія можна ўжываць для жывёлы, дык убачым наступнае: *драўляныя стружкі ўтрымліваюць жыжку* толькі у $2^1/_3$ разы больш сваей вагі, *аўсяная салома*—у $3^2/_3$ разы, як і хваёвыя апілкі; *жытняя салома і яловыя апілкі* ў $4\frac{1}{2}$ разы—5 раз, *тарпяная падсьцілка* ў 10 разоў, тарпяны парашок у 12 раз. і, урэшце, *мохавая падсьцілка* (з белага моху) утрымлівае жыжку ў 9 раз. больш уласнай вагі.

Яскрава, што лепш ужываць мохавую падсьцілку. Тым больш, што мохавая падсьцілка, акрамя таго, што дае сухое лёжа, паглынае ўсе дурныя пахі ў хлявох і ўтрымлівае надта каштоўныя для палёў жыжкі.

Балот у нас шмат, яны блізка...—Будзем-жа *клапаціцца аб здароў'і жывёлы і перэйдзем к прымяненьню ў гаспадарцы тарпяной і мохавай падсьцілкі.* Гэтым мы з'экономім салому для корму і палучым

больш гною, прытым гною больш каштоўнага, не саломістага, вельмі патрэбнага нашым высіленым палём і сенажацям.

*Торп, як угнаеньне.* Ураджаі палёў Беларусі надта нізкія: збожжавыя расьліны ў сярэднім на 1 гэкт. даюць зярна: азім. жыта і ячмень—35—40 п., авёс—39—45 п. Лён дае ад 16 да 24 п. насеньня, а бульба ад 335 да 520 п. клубняў.

Гэтыя нізкія ўраджаі тлумачацца тым, што глебы высіліліся, у іх няма спажывы для расьлін. Мы ва ўраджаях бярэм спажывы з глебы больш, чым кожны год даём ёй гною.

І сапраўды, для таго, каб патрымліваць глебу пладароднай, трэба пры трохпалёўцы даваць ёй штогодна па 2400 п. гною на дзес., а мы даём толькі 400—800 п., яскрава, што глеба бяднее.

Але гною ў гаспадарцы не хапае: няма кармоў, і жывёлы трымаецца ў гаспадарцы мала. Ці нельга чым небудзь замяніць гной? Ці нельга чым-небудзь іншым, апроч гною, падтрымаць ураджайнасьць глебы?

*Зразумела можна. І тут да нас на выручку прыходзіць торп!..*

Торп ствараецца з памёршых расьлін, утрымоўвае ў сабе ўсе тыя матар‘алы, якія патрэбны для кармленьня расьлін. Трэба толькі, каб расьліны, з якіх складаецца торп, разлажыліся, перагнілі, пачарнелі. Тады торп будзе надта добрым для ўгнаеньня.

Торп, які трэба здабыць з восені, альбо ўзімку, складваюць у кучы блізка поля, якое патрэбна ўгнаіць. Некалькі разоў яго ў кучах перакопваюць, каб ён больш праветрыўся і к восені, на папарным полі, яго можна ўносіць, як угнаеньне замест гною.

Лепей, калі гэты торп з балота вывезьці ўзімку к сабе на двор у кучу і пасыпаць яго вапнай, а затым усе адкіды хатняй гаспадаркі—попел з пячэй, памыі, сьмецьце з хаты, птушыны памёт і інш. выкідваць на гэту кучу. Часамі трэба і ў гэтым выпадку кучу таксама перакопваць, і тады к восені, альбо к вясне будучага году—к пасеву яравых, у гаспадарцы будзе ўгнаеньне па якасьці нікольні ня горшае за гной.

Яшчэ лепей, калі к тарпяной кучы прыбавіць колькі-небудзь гною з кароўнікаў і канюшань. Тады торп у кучы робіцца яшчэ лепшым, больш каштоўным як угнаеньне і завезены ў поле павысіць нашы нізкія, бедныя ўраджаі ўсіх расьлін.

Як гэта зрабіць? Аб гэтым мы пагаворым у чарговых нумарох часопісі „Плуг“, а *цяпер пакуль што запомнім наступнае:*

*Балота—гэта наша нескарыстанае даравое багацьце, дзякуючы таму, што ў іх знаходзіцца торп.* Клапатлівы і беражлівы селянін павінен ужываць у гаспадарцы торп—як апал, што забароніць зьнішчэньне лясоў на дровы; як падсьцілку замест саломы, таму—што лепшай за тарпяную падсьцілкі для жывёлы ў прыродзе няма; як угнаеньне—узамен нехапаючага гною. Тады ўраджаі сельска-гаспадарчых расьлін павысяцца, гаспадарка земляроба ўзмацніцца, а ад гэтага палепшыцца і народная гаспадарка Рэспублікі, і зможа больш поўна здаволіць усе разнастайныя патрэбы насельніцтва.

*Больш увагі торпу!.. Больш клопату аб нашых лясох, нашай жывёлы і нашых палёх!..*

*Беражэце балоты ад пажараў! Імкнецеся ўжываць торп у гаспадарцы ўсюды, дзе ім можна карыстацца!*

Скарыстоўвайце даравое багацьце прыроды—*торп*, запасаў якога хопіць на тысячы год.

*Увага торпу!..* Х. Бахцеяў.

# Арганізацыя штучных пашаў.

Адзін з галоўных недахопаў нашае сельскае гаспадаркі, гэта адсутнасьць корму для жывёлы ці, як кажуць, „бяскорміца“. Гэты недахоп у арганізацыі нашае сельскае гаспадаркі ёсьць гістарычны перажытак, цяжкая спадчына царскае ўлады—жывы сьведка і паказчык нашай адсталасьці і несьвядомасьці.

Няма корму—няма скаціны; няма скаціны—няма гною; няма гною—няма хлеба. Вось эканамічная лёгіка, якая выразна паказвае, што разьвіцьцё сельскае гаспадаркі залежыць ад корму. Але да апошняга часу практычнага разьвязаньня гэтае пытаньне ня мела. Умовы-ж сучаснага жыцьця вымагаюць магчыма скарэйшага разьвязаньня гэтага пытаньня. Папершае, прызнаны жывёлаводны ўхіл нашае сельскае гаспадаркі, прымушае нас перагледзець і перабудаваць усю сыстэму зімовага і летняга кармленьня жывёлы, ці, інакш кажучы, ліквідаваць спрадвечную бяскорміцу і забясьпечыць нашу скаціну кормам на ўвесь год. Другое—гэта ўсё ўзрастаючае малазямельле, як вынік натуральнага прыросту жыхарства і драбленьня гаспадарак, якое прымушае скарыстоўваюць пад пахаць усе незанятыя да гэтага часу зямельныя вучасткі і гэтым самым зьмяньшае плошчу натуральных пашаў. Пашамі-ж у нас зьяўляюцца папар, лес, балота і розныя пусташы. На іх, у працягу ўсяго лета, расьце толькі грубая сьмяцьцёвая трава, ды і то ня густа і скаціна па такіх пашах ходзіць дзесяткі вёрст і вараочаецца дамоў галодная. Чакаць якога-небудзь прыбытку ад нашай скаціны пры такіх умовах, вядома, ня прыходзіцца, тут, як кажуць, „не до жиру—быть бы живу“. Вось чаму трэба неадкладна распачаць арганізаваньне штучных пашаў з падсевам траў і скарыстаць іх дзеля штодзеннага падкорму скаціны ў хлявох, ці пасьвіць па іх скаціну на прывязах (дацкім спосабам).

Штучныя пашы і спосабы карыстаньня імі — справа ў нас новая. Нашым гаспадаром яна будзе спачатку здавацца вельмі цяжкай, як і ўсё, з чым мы мала знаёмы. Але раней, чым казаць што-небудзь проціў штучных пашаў, трэба ўспомніць, што пераход ад сахі і драўлянай бараны к лепшым прыладам быў таксама ня вельмі скоры. Ня бачыўшы яшчэ новых машын, сяляне казалі: „ні да чаго гэтыя выдумкі, дзяды і сахой аралі, ды хлеб елі, а мы як сталі выдумваць, дык бяз хлеба сядзім“. Але як толькі сяляне азнаёміліся з плугам і бараной новага, культурнага тыпу, зараз-жа саха была выкінута, як непатрэбная рэч. Быў час, калі такая каштоўная для нас культура, як бульба, прымусам уводзілася ў нас у засеў. У выніку гэтага шмат у якіх мясцох пачыналіся, так званыя, бульбяныя бунты. Яны здараліся ня толькі ў нас, але і ў замежных краінах і патрэбна было войска, каб іх супакоіць. А цяпер? Цяпер бульба для нас зьяўляецца самай каштоўнай культурай, якая займае 1/6 частку ўсёй пасяўной плошчы. З такой-жа неахвотай з боку сялянства ўводзілася ў сялянскую гаспадарку і іншыя карысныя, але новыя с-г. мерапрыемствы.

Калі штучныя пашы і з дацкім спосабам выпасу іх—новыя для нас, дык у краінах Зах. Эўропы—Даніі, Галяндыі, Бельгіі і інш. яны ўведзены 30-40 год назад і маюць практычнае ўжываньне. Гэтыя краіны так малазямельны, што зусім ня маюць натуральнае пашы і толькі дзякуючы штучным пашам маюць магчымасьць трымаць скаціны ў

5-6 разоў больш нашага. І каровы іх даюць у год па 300-350 вёдзер малака, тады як мы атрымліваем па 50-60 вёдзер.

Нам трэба вывучаць арганізацыю і пачаць паступова пераходзіць да штучных паш, дзе толькі магчыма. У першую чаргу, вядома, у землеўпарадкаваных мясцох: пасёлках, калактывах і г. д.

Штучныя пашы закладаюцца, як шматгадовыя, так і аднагадовыя. Шматгадовыя пашы закладаюцца на асобных вучастках, якія не ўваходзяць у севазварот. Для іх вылучаецца з агульнага севазвароту адно поле, якое засяваецца шматгадовымі травамі на 6-7 год. Пасьля таго, як ураджай травы пачне зьмяньшацца, пераходзяць да пасеву траў на другім полі, і гэта ўводзіцца ў плянавы зварот. Аднагадовыя пашы закладаюцца, галоўным чынам, на папары, які да гэтага часу звычайна нічым не займаўся.

Лепш азнаёміцца з тэхнікай гэтае новае справы на аднагадовых пашах. Яны прасьцей, ня вымагаюць ломкі старых форм гаспадараньня, больш танныя і ўзорныя, бо тут магчыма весьці такі падбор траў, які забясьпечыць жывёле зялёны корм ад раньняй вясны і да позьняй восені. Лепш і найбольш падыходзячымі травамі для аднагадовых пашаў будуць азімая віка, аднаўкосная канюшына і яравая віка, якія даюць зялёны корм і магчымасьць пачаць выпас на пашы, напр., азімая віка, як самая раньняя расьліна, з 15-17 мая нов. ст. (па маім назіраньням) і да 3-5 чэрвеня; на канюшыне з 5 чэрвеня па 25-27 чэрвеня. На пашы яравой вікі з 25-27 чэрвеня па 15-20 ліпеня. Пасьля яравой вікі можна яшчэ скарыставаць атаву канюшыны—так да 1-га жніўня. Пасьля гэтага пашай можа быць поле з пад азімых і яравых, на якіх вясною падсеяна сэрадэля.

Тэхнічна закладка такіх пашаў робіцца наступным парадкам: у бягучым годзе яравы клін (на якім у 1929 г. будзе папар) дзеліцца на 3 часткі: на аднэй частцы бягучай вясной трэба пасеяць канюшыну, на другой восеньню трэба пасеяць азімую віку, а трэцяя частка застаецца незасеянай. Яна засяваецца яравой вікай у 1929 г.

Разьмяркоўваюцца гэтыя шнуркі, у мэтах выгаднейшага скарыстаньня, такім парадкам: першая па чарзе ідзе азімая віка, потым канюшына і ўрэшце яравая віка.

На 1 галаву 15-18 п. жывое вагі з 15 ф. удоем патрэбна пудоў так 2—2 п. 10 ф. травы ў дзень. На 75 дзён, г. з. да 1 жніўня—140-155 п.; лічачы, што сярэдні ўраджай 550-600 п. травы з дзес., выходзіць, што на 1 галаву трэба 1/4 дзес., ці па 200 кв. саж. вікі азімай, яравой і канюшыны.

Мы павінны перамагчы ўсе труднасьці, якія могуць перашкаджаць заводзіць гэтыя пашы і дабіцца посьпеху. Трэба памятаць, што калі мы здолеем добра вырашыць гэтае пытаньне, дык у будучыне тымсамым падымем сельскую гаспадарку. Мы ня можам абыйсьціся бяз штучных паш. Іх рабілі і робяць краіны Зах. Эўропы; мы-ж толькі пачынаем гэту справу, хаця і з вялікім спазьненьнем, але павінны праводзіць далей, каб выйсьці з бяскорміцы—губіцеля нашае сельскае гаспадаркі, бо гэта мерапрыемства пацягне за сабой ня толькі буйны рост жывёлагадоўлі, але і паляводзтва і агульнай індустрыялізацыі ўсей сельскае гаспадаркі.

Агранnetworks **Уліцін**.

# ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА

## Які сорт бульбы лепш садзіць на занятым папары.

Ёсьць шмат такіх гаспадарак, якім можна на рынку прадаваць маладую, яшчэ недасьпелую бульбу. Такім гаспадаркам выгадна займаць папар пад бульбу, пры тэй умове, што бульба будзе рана выкапана, каб пасьля яе сваечасова можна было пасеяць жыта. Бульба на гнаі і пры раньнім выбіраньні ўсё-ж можа даць 50—70 двайных цэнтнэраў (300—400 пуд.), а часамі і больш. Як бачым, ураджай ня вельмі вялікі, але трэба прыняць пад увагу, што цана на маладую бульбу ў канцы ліпеня і пачатку жніўня на рынку вельмі высокая. Ня прыходзіцца гаварыць аб тым, як важна для сялянскай гаспадаркі мець у гэты час грашовую падмогу ад прадажы маладой бульбы.

Але, каб весьці такі папар, трэба ведаць некаторыя правілы, як уносіць гной на яго пад бульбу, які сорт бульбы трэба сеяць і калі трэба сеяць. Увосень вывозіцца гной і заворваецца. Калі-ж мы маем глебу пясчаную або супясчаную, то гной лепш вывозіць зімою альбо перад самай воранкай. У гэты-ж час заворваюць яго на поўную глыбіню. Асеньняе ворыва ўвесну мелка пульхніцца (шматлямешнікам, альбо культыватарам), але так, каб не зачапіць завoранага гною. Пасьля гэтага садзяць бульбу, прычым бульбіны садзяцца няглыбока, каб не выварачваўся гной. Таксама садзіцца бульба і на гнаі завораным вясною, з тэй толькі розьніцай, што тут глеба пасьля прысыпкі гною толькі барануецца. Каб бульба хутчэй расла, трэба перад пасевам бульбіны правяліць. З наглядаяньняў дасьледчага поля Ціміразеўскай сельска-гаспадарчай Акадэміі, правяленая бульба абагнала ў росьце не правяленую на 10—15 дзён. Апрача таго, правяльваньне павялічвае ўраджай бульбы. Правяльваньне робіцца так: бульбіны перад пасадкай на працягу 2 тыдняў ляжаць на сонечным сьвятле ў немарозным памяшканьні. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на выбар сорту бульбы, якая садзіцца на папары, бо з аднаго боку, трэба пасьпець пасеяць пасьля бульбы азіміну (бульба капаецца за 10 дзён да пасева жыта), а з другога боку, трэба палучыць найбольш высьпеўшую бульбу— таму трэба выбіраць скарасьпелыя сарты. Для гэтага найбольш надаюцца разам з іншымі два сарты, іменна—„Раньняя роза“ і „Эпікур“. Па сваёй скарасьпеласьці, як сьведчыць праца Мірзоева, на дасьледчым полі Ціміразеўскай Акадэміі—„Эпікур“ апынуўся на першым месцы. Гэты сорт зацьвіў на 36 дзень, як ні адзін другі з 25 сартоў, а „Раньняя роза“ на 46 дзень [1]).

---

[1]) Хаця трэба заўважыць, што згодна Букасаву момант зацьвітаньня не зьяўляецца пэўным доказам скарасьпеласьці і што для гэтага трэба браць пад увагу яшчэ і іншыя здольнасьці росту.

Каранеўская станцыя характэрызуе такім чынам гэтыя два сарты (працы Асеявай): „Раньняя роза“ сваёй скарасьпеласьцю, добрым смакам і буйнасьцю бульбін, прываблівае да сябе ўвагу насельніцтва. Ураджайнасьць і процант крухмалу гэтага сорту—добрыя; але, нажаль, гэты сорт вельмі хутка загнівае і таму можа расьці на добра драніраваных глебах. „Эпікур“—скарасьпелы сорт, мае буйныя бульбіны, ня так лёгка захворвае, як іншыя раньнія сарты, ураджайнасьць, як для раньняга сорту, ня дрэнная асабліва ў сырыя гады. Процант крухмалу сярэдні, добра скарасьпелы сорт для сырых мясцовасьцяй“.

Таксама добра характэрызуе гэтыя два сарты А. Г. Лорх, дзе ён між іншым піша: „Раньняя роза лёгка захворвае, надаецца для кантынэнтальнага клімату. Эпікур—сярэдняе трываласьці больш падыходзіць да сырога клімату“. З гэтага мы бачым, што ў Беларусі лепш сеяць сорт „Эпікур“. Гэты-ж сорт па сваёй скарасьпеласьці стаіць на першым месцы, калі сеяць яго на занятым папары. Нельга, бязумоўна, думаць, што толькі адзін „Эпікур“ для ўсей Беларусі зьяўляецца ўраджайным сортам [1]). Бязумоўна, ёсьць шмат іншых добрых сартоў, але сорт „Эпікур“, мне здаецца, найбольш падыходзячым. Нарэшце прыведу некалькі даных пра гэты сорт, якія мы палучылі мінулым летам:

| | Ураджай у цэнтнэрах на гэкт. | Ураджай у пуд. на дзес. | % крухмалу. | Крухмалу ў цэнтэр. на гэкт. | Калі зацьвіў. |
|---|---|---|---|---|---|
| Раньняя роза . . . | 115,7 | 771,8 | 14 | 16,2 | 40 д. |
| Эпікур Гар. . . . | 130,6 | 871,5 | 13,25 | 17,2 | 36 „ |
| Эпікур Бутул. . . . | 151,7 | 1012,0 | 14 | 21,2 | 36 „ |

Праф. **А. Ключароў.**

# Комплексны пасеў і карысьць ад яго ўжываньня.

Зьвярнуўшы ўвагу на нашы сенажаці, лясныя палянкі, пералогі і залежы, мы заўважым вялікую разнастайнасьць расьліннасьці. Шыроколісьцьвенныя расьліны перамешваюцца з вузкалісьцьвеннымі, матыльковыя з злакамі, высокія з нізкімі і нарэшце мелкаўкараняючыя з глыбокаўкараняючымі расьлінамі. Вось гэта можна назваць прыродным комплексным расьлінным згуртаваньнем. У такім згуртаваньні скрываецца глыбокі інтарэс, дзе можна заўважыць клясавы падбор і барацьбу за лепшы стан. Але прырода робіць так, каб усім расьлінам было сваё месца, каб яны не перашкаджалі жыць адна другой і як мага лепш разьвівалі сваю расьлінную масу. Павялічаная ліставая паверхня дае магчымасьць улаўліваць найбольшую колькасьць сонечных праменьняў і скарыстоўваць іх энэргію на ўтварэньне ўраджаю. (Адзначым, што ўсё арганічнае жыцьцё на зямлі залежыць выключна

[1]) Бульбу Эпікур магчыма атрымаць па цане 1 р.—1 р. 50 к. за пуд. або ад Саюзкартофеля: Москва, Никольская 11; або Подмосковского т-ва С. В.: М. Улинский 21.

ад сонечнай энэргіі, якую могуць улаўліваць толькі адны зялёныя лісткі расьлін, адкладаючы апошнюю ў сябе на карысьць жывёле і чалавеку). Аб гэтым праф. К. А. Ціміразеў кажа так: „сонечны прамень, паўшы на зямлю і не спаткаўшы расьліну не скарыстоўваецца і адбіваецца ў міравы прастор без зьвяртаньня. Гэта ёсьць нішто іншае, як кавалак хлеба, вырваны з рук нашых патомкаў“. Вось чаму ўся дзейнасьць земляроба і павінна быць накіравана на тое, каб як мага больш поўна скарыстоўваць сонечную энэргію пры дапамозе расьлін. Як гэта зрабіць дае нам прыклады сама прырода. Мы павінны пры гадоўлі культурных расьлін на сваіх палетках рабіць тое, што мы бачым на нашых сенажацях, аблогах і нават лясох. Згуртаваць некалькі расьлін так, каб яны пры супольным разьвіцьці ня толькі не перашкаджалі, а наадварот, дапамагалі адна другой і ў суме давалі найбольшы ўраджай. Супольны пасеў культурных расьлін, штучна падабраны самім гаспадаром, у залежнасьці ад прыроды расьлін, для атрыманьня найбольшага ўраджаю і завецца *комплексным пасевам.* Завуць такі пасеў яшчэ мешаным пасевам, альбо проста мешанкай.

Усім вядома віка-аўсяная мешанка. Гэта ёсьць прасьцейшы прыклад комплекснага пасеву. Віка-аўсяная мешанка знаходзіць сабе месца ў яравым кліну і ў папары, нават пры звычайнай трохпалёўцы, але для комплексных пасеваў, наогул, лепш, как было 4-х, альбо 5-ці польны севазварот.

Другі комплексны пасеў можа быць складзен з ячменю і гароху, г. з. ячменна-гарохавая мешанка, якая дае значна вялікую расьлінную масу. Трэба адзначыць, што мешанку карысна сеяць ня толькі для атрыманьня зялёнага корму, а і для атрыманьня зярнят. Пры абмалоце зярняты гэтых расьлін могуць быць добра разабраны і ачышчаны на простай арфе. Прывядзем прыклад комплекснага і простага пасева з адной сялянскай гаспадаркі Чаўскага раёну (Магілеўшчына). У 1925 годзе было засеяна тры роўных кавалачка зямлі: адзін аўсом, другі гарохам, трэцьці такі-ж самы быў засеян мешанкай з аўса і гароху. Вынік, перавёўшы на 1 дзес., атрымаўся гэтакі: 1 дзес. аўса дала 70 пуд. зярна і 85 пуд. саломы. Дзесяціна гароху—85 пуд. зярна і каля 100 п. саломы. Такім чынам з двух дзесяцін атрымалася зярна 155 пуд. і каля 185 пуд. саломы. Высеяныя гэтыя расьліны супольна на адной дзесяціне, далі амаль што ні такі самы ўраджай, як і з двух дзесяцін: 135 пуд. зярна і 160 пуд. саломы.

З гэтага прыкладу мы бачым, што пры комплексным пасеве можна падвайваць ураджай нашых палеткаў.

Некаторыя дасьледчыя станцыі і паасобныя гаспадары выпрабоўваюць комплексны пасеў з наступных расьлін: аўса, ячменю, яравога жыта, вікі і гароху. З прыроды гэтых расьлін мы ведаем, што гарох і віка здольны паляпшаць пахаць абагачваючы яе азотам, які патрэбен для аўса, ячменю і яравога жыта. У сваю чаргу гэтыя апошнія служаць пры супольным пасеве падпоркай для палягчаючых сьцяблоў вікі і гароху. Вось тут мы і бачым карысьць комплекснага пасеву, дзе самім гаспадаром штучна падабраныя расьліны ў залежнасьці ад іх біолёгічных асаблівасьцей, сваім разьвіцьцём дапамагаць адна другой.

Трэба адзначыць, што компклесным пасевам паляпшаецца глеба для наступных культур.

У Нямеччыне мне прышлося бачыць шмат пасеваў бульбы супольна з бабамі і фасольлю, на Украіне—бульбу з сланэчнікам і інш. Усе гэтыя расьліны пасаджаны ў баразну з бульбай праз каліва і два (сланэчнік

радзей) і атрымоўваюць ад гаспадара такі самы догляд, як і бульба, а таму і даюць добры ўраджай, мала зьніжаючы асноўны пасеў бульбы.

Мне здаецца, што ў нашых умовах Беларусі варта было-б гэткія пасевы паспрабаваць уводзіць. У часопісі „Плуг“ ужо адзначаліся некаторыя спробы ў гэтым напрамку, але трэба пажадаць, каб яны былі значна пашыраны. Пажадана папрабаваць пасеў бульбы супольна з турнэпсам, альбо з кармовым бураком ці бручкай. Дзеля першага разу можна зрабіць гэта хоць на маленькіх кавалачках плошчы, а ўжо ўпэўніўшыся ў карысьці такіх пасеваў, на другое лета гаспадар сам



Сяўба.

вырашыць, як яму пастуціць у далейшым. Незабудзем, што і маленькі досьлед зьяўляецца вялікім навучаньнем.

Пад комплексныя пасевы апрацоўка глебы пачынаецца з восені. Рана вясной возіцца гной, заворваецца і робіцца пасеў. Нормы для высеву можна раіць такія: 1) аўса 8 пуд. + 4 пуд. вікі — усяго на дзес. 12 пуд. 2) ячменю 7 пуд. + 5 пуд. гароху. 3) Аўса 4 пуд. + + вікі 2 пуд. + ячменю $3^1/_2$ пуд. + гароху $2^1/_2$ пуд.; усяго таксама 12 пуд.

Для атрыманьня зярнят і пры добрым пасяўным матар'яле гэтыя нормы можна трошкі зьменьшыць.

Комплексныя пасевы павінны дапамагчы ў вырашэньні кармовага пытаньня, без чаго цяжка пачаць перабудову нашых зернавых гаспадарак на прыбытковыя жывёлаводныя. Трэба пастарацца не пакідаць больш пустуючага папару, а займаць яго комплексным пасевам. Можа ён і дапаможа разгадаць задачу ў атрыманьні двух каласоў там, дзе рос да гэтае пары толькі адзін, пракарміць некалькі галоў жывёлы з той плошчы, дзе да гэтай пары пасьвілася толькі адна, ды і то полугалодная.

Тым, хто зробіць досьлед комплекснага пасеву ў сваёй гаспадарцы, запрашаю падзяліцца вынікамі ўвосень праз часопісь „Плуг“.

**А. Савельлеў.**

# Парады селяніну ільнаводу.

Культура лёну ўдаецца на ўсіх глебах, апрача цяжкіх—глiністых і вапнавых. Нават лёгкія пясчаныя глебы, пры належным угнаеньні, даюць добры ўраджай лёну. Лён вельмі высільвае глебу, бо вырываецца з карэньнем і пасьля сябе для ўгнаеньня глебы нічога не пакідае. Дзякуючы таму, што каранёвая сыстэма лёну слабая, яна скарыстоўвае толькі тыя сокі з зямлі, якія найбольш распушчаюцца (раствараюцца). Каб глебу ня вельмі высіліць лёнам—яго трэба сеяць ізноў на тым самым месцы толькі праз шэсьць—восем год. Вельмі добра лён удаецца на аблогах, заляжах і пасьля канюшыны. Лён вельмі добра расьце пасьля ўгнаеньня, асабліва калійнага і фосфарнакіслага (пераважна супэрфосфату). Па выніках Волакаламскага Дасьледчага поля, ураджай ад мінэральнага ўгнаеньня павышаецца ільнонасеньня ад 5,2 проц. да 21,9 проц. і валакна ад 18,2 да 36,3 проц. (Мінэральныя ўгнаеньні на Дасьледчым полі браліся з такім разьлікам: на гэктар—нарвэжскай салетры 7 пудоў, супэрфосфату 15 пуд., калійнай солі 9 пудоў).

Сяляне-ільнаводы могуць прытрымлівацца такіх норм пры мінэральным угнаеньні: з разліку на гэктар— супэрфосфату 2—2½ пуды на кожны пуд высяваемага насеньня; калійнай солі каля пуда на кожны пуд насеньня.

Асаблівую ўвагу селяніну-ільнаводу трэба зьвярнуць на тое, што попел вельмі добрае ўгнаеньне пад лён.

З даных Дасьледчай Станцыі Ціміразеўскай С.-Г. Акадэміі, попел, высеяны ў ліку 40–60 пуд. на гэктар, падвышае ўраджай: ільнонасеньня на 1 п. 35 ф., льновалакна на 2 п. 30 ф. Уносіць гной пад лён ня раіцца, бо гной трудна раўнамерна разьмяркоўваецца па полю, а праз гэта поле выходзіць стракатым. Перавага азоту паніжае якасьць валакна і можа быць прычынай палягаmake лёну, а ў засушлівыя гады—нават выгараньня. Лён любіць чыстую глебу, вельмі баіцца сьмецьцякоў, а на гнаі сьмецьцякі добра растуць. Насеньне для пасеву павінна быць буйнае, здаровае, без усялякіх засьмецьваючых траў. Перад пасевам насеньне трэба ачышчаць. Якасьць насеньня лёну пазнаецца па бляску, колеру, паху і нават на смак. Добрае насеньне блішчыць, ня мае затхлага паху і на смак ня горкае. Калі кінуць на распаленае вугольле добраякаснае насеньне лёну, то яно палопаецца і загарыцца яскравым полымем. Калі-ж здушыць добрае насеньне лёну ў кулаку, то яно прасьлізгваецца паміж пальцамі. Гэта ўсё не дакладныя спосабы распазнаваньня годнасьці насеньня. Лепш-жа за ўсё распазнаць насеньне можна прарашчваньнем. Гэтым распазнаецца ўсхожасьць насеньня. Робіцца гэта вельмі проста: бярэцца 100 штук насеньня не выбіраючы, раскладваюцца паміж кускамі мокрага войлака (можна і ў сырой чыстай анучцы). Войлак, як і анучка ў якой прарошчваецца насеньне павінны быць вільготнымі. Праз 10—12 дзён падлічваюць, колькі з узятай сотні насеньня прарасло. Прычым праросшымі лічацца тыя зярняты, у якіх даўжыня карэньчыка ня меньш даўжыні самога зярняці. Калі з сотні прарасло 90 зярнят, то ўсхожасьць лічыцца ў 90%. Нармальным лічыцца насеньне, усхожасьць якога ня ніжэй 92—95 проц. Час пасеву лёну мае важнае значэньне. Сяляне звычайна сеюць у другой палове мая ст. ст. (10—21). Досьледы-ж паказваюць, што лён лепш удаецца пры раньнім пасеве. На Ільняной Дасьледчай Станцыі

Ціміразеўскай сел.-гасп. Акадэміі мы маем такія ўраджаі ў залежнасьці ад часу пасеву:

| | Льносаломы (трэсты) | Насеньня | Валакна |
|---|---|---|---|
| 30 красавіка ст. ст. | 177 п. | 21 п. | 34 п. |
| 8 мая " " | 150 " | 15 " | 25 " |
| 18 мая " " | 152 " | 12 " | 27 " |
| 27 мая " " | 144 " | 8 " | 19 " |

Гэта сьведчыць аб тым, што раньнія пасевы даюць лепшыя ўраджаі і сялянам-ільнаводам трэба прыняць гэта пад увагу. Бо з вясны глеба захоўвае больш вільгаці і, пакуль засьмецьваючыя травы падымуцца, насеньне лёну здолее прарасьці і ўмацавацца. Гушчыня пасеву таксама мае вялікае значэньне. Чым гусьцей пасеў, тым лепш. З даных тэй-жа Дасьледчай Станцыі за некалькі год мы маем такую розьніцу ва ўраджаі ў залежнасьці ад гушчыні пасеву:

| | Льносаломы | Валакна | Насеньня |
|---|---|---|---|
| Пры высеве 5 пуд. на дзесяціну | 70 п. | 15 п. | 18 п. |
| " " 7½ " " " | 114 " | 20 " | 23 " |

Апрача таго, што ўраджай падвышаецца, пры густым пасеве паляпшаецца і якасьць валакна. Чым гусьцейшы пасеў, тым валакно танчэйшае. Вось чаму, для атрыманьня больш высокай якасьці валакна і для падвышэньня ўраджаю, трэба на дзесяціну сеяць ня меньш шасьці пудоў.

**Д. Пліс.**

---

# Сейце лубін—ён заменіць гной.

У сялянскіх гаспадарках вельмі мала гною. Каб добра радзіла збожжа і іншыя расьліны, трэба яшчэ, у сярэднім, для ўсіх гаспадарак у тры разы больш гною, чым яго ёсьць зараз. Калі ня ўнасіць гною, як трэба (хоць у шэсьць гадоў раз на супясчаных глебах), дык ураджай бывае надта малы, часта толькі зварочвае насеньне, ці дае акрамя насеньня ня больш 10 п. зярна. Гэта ўжо вядома ўсім гаспадаром, але некаторыя з іх яшчэ і дасюль сеюць на „авось“, а некаторыя і проста кідаюць зямлю гуляць. Між тым зямлі ў нас надта мала і гэтакае выкарыстаньне яе прыводзіць гаспадарку да заняпаду. Чым-жа можна замяніць гной? Для гэтага трэба сеяць лубін.

Турская Дасьледчая Станцыя ўжо 3 гады ставіць досьледы з лубінам. На вялізных дзялянках яна сее лубін пад жыта, а калі на такіх-жа самых дзялянках кідаецца поле ў папар (як у сялян), дык у замен лубіну возяць 100 вазоў (2400 пуд.) гною на дзесяціну. Лубін сеецца бяз гною на ўзоратых глебах. Араць поле пад яго трэба ці на зіму, ці раньняй вясною. Ляпей араць восеньню, вясной жа скародзіць і яшчэ раз перааараць плугом. Потым поле скародзіцца і сеецца ў пачатку мая лубін, радавым сяўнікам 10 пуд. на дзесяціну. а ў раскід 13—15 пуд. Лубін патрабуе захаваньня ў глебу, абы не заставаўся на паверхні (лепш забаранаваць пружыноўкай); прастая барана вельмі кепска захоўвае, шмат насеньня застаецца на паверхні і звычайна ня ўсходзіць. Калі-ж на полі яшчэ першы раз сеецца лубін, дык трэба

ўзяць вазоў пяць зямлі (на дзесяціну) з той глебы, дзе ў мінулым годзе быў лубін і рассыпаць па засеенай плошчы. Трэба заўсёды зьвяртаць увагу, каб насеньне лубіну было ўсходжае, бо яно дужа хутка губляе ўсходжасьць. Трэба перад пасевам усходжасьць праверыць.

Жалвачкі (клубянькі) на карані Лубіну.

Лубін вельмі дужа расьце і дае ўраджай сырой масы па вазе роўны 100 вазам гною (г. зн. да 2400 пуд.). Заворваецца лубін у пачатку ці ў сярэдзіне жніўня, калі на ім ужо ўсё стручча завязалася. Зараз-жа за плугам поле барануецца ў 1-2 сьляды ўдоўж ворыва, (каб ня выцягваць лубіну). Калі яшчэ застаецца месяц да пасеву, дык праз два тыдні зьяўляецца на пахаці розная трава; гэтага ня трэба дапускаць, а зьнішчыць яе пружыныўкай ці звычайнай бараною. Пружыныўку трэба ўстанавіць няглыбока, а ў простай бараны, калі яна цяжкая, дык трэба падбіць брускі, каб яна ня ішла глыбока і не вырывала сьцяблоў лубіну. Станцыя на сваім дасьледчым полі ў гэткіх выпадках поле ня глыбока пераворвае (на 1 вярш. 4-х лемяшнікам Эккерта). Калі заворан лубін за 2 тыдні да пасева жыта, дык ніякай апрацоўкі дадаткова не вядзецца і сеецца жыта па 1-й воранцы з папярэдняй скарацьбой. Але ўсё-ж такі лепш раней заараць лубін, прыблізна ў пачатку жніўня.

Ураджай жыта па досьледах 2-х гадоў палучаецца такі самы, як і па позьняму пару, на які ўнесена 100 вазоў гною (па ліку на дзес.).

| | | |
|---|---|---|
| Па лубінавому пару ўраджай зярна жыта | 101 | пуд. |
| Па ўгноенаму позьняму пару | 98 | „ |
| Там-жа на другі год, дзе быў лубін, ураджай аўса | 91 | „ |
| „ „ „ „ „ „ „ позьні папар | 82 | „ |

Такім чынам, лубін, калі ён добра вырас (а ён добра расьце калі сеяць так, як паказана), дык на стараворных землях у першыя гады пасева можа падняць ураджай, як і гной. Лубін мае вельмі доўгі корань, які і дастае сабе пажыўныя матэрыі з глыбокіх пластоў зямлі. Дзякуючы гэтаму, лубін разьвіваецца надта добра і на дрэнных глебах Другая прычына чаму так добра расьце лубін—гэта што яго карэньні бяруць яшчэ з паветра азот праз бактэрыі. Азот-жа вельмі патрэбны для росту расьліны. У лубіну на каранёх ёсьць жалвачкі, у якіх жывуць бактэрыі, што жывяцца азотам глебавага паветра. Каб лепш разьвіваліся бактэрыі, расьсяваецца зямля старых лубінішч на новыя землі, дзе яшчэ ня сеяўся лубін ніколі. Як кажуць, зямля заражаецца бактэрыямі. Такім чынам намнажваецца азот у тых глебах, дзе расьце лубін больш чым ад гною. Значыць, лубін бярэ пажыўныя матэрыі з глыбокіх пластоў глебы і з паветра. Лубін яшчэ лепш павялічвае ўраджай, калі ў час запашкі лубіна прыбаўляць трохі гною, вазоў 30 на дзес., 600 пуд.). Сумесна яны лепш падымаюць ураджай, чым кожны па сабе. Пажніўны лубін дрэнна разьвіваецца, бо яму не хапае часу і цяплыні на разьвіцьцё. У 1927 г. ён даў 250 пуд. сырой масы на

дзес., лубін-жа пасеяны ў канцы чэрвеня разьвіўся добра, к восені цьвіў і даў масы 1600 п. на дзес. Гэта гаворыць за тое, што ў раёне Бабруйшчыны і Магілеўшчыны можна сеяць лубін пасьля скоса вікі на сена, ці раньняй грэчкі. Лубін у такім разе павінен разьвіцца і закрасаваць да позьняй восені. Бульба вельмі добра родзіць пасьля лубінавага ўгнаеньня і дае на дасьледчым полі 1880 пуд.; столькі-ж бывае і на гнаі (1882 пуд.). Лубін у нашым раёне добра і сваечасова дасьпявае к канцу жніўня ці ў першай палове верасьня. Насеньне—стручча можна сабраць рукамі колькі трэба, а рэшту масы заворваюць пад бульбу к другому году.

У заключэньне трэба сказаць, што пашырэньне культуры лубіну на ўгнаеньне ёсьць пэўны сродак падняць ураджай і што лубін дае гаспадаром вельмі вялікую карысьць. Трэба як мага больш даваць у крэдыт насеньня лубіну сялянам. Крэдыты зварочваюцца праз паўтара гады і ў гэты час будзе значна падняты прыбытак гаспадарак.

Аграном **М. Драздоў.**

(Загадчык Турскай Дасьледчай Станцыі).

# С-г. хроніка.

**Праца зернаачышчальных пунктаў.** У Мсьціслаўскім раёне працуюць 4 зернаачышчальных пункты. Галоўны пункт мае ў два разы больш машын, супроць мінулага году, а тры астатнія маюць той самы лік машын. Інтэнсіўнасьць ачысткі павялічылася ў 3 разы супроць 1927 году.

Сартыруюць насеньне ўсе сяляне, але пераважна бяднейшая частка, чаго не назіралася ў мінулыя гады. Праца па ачыстцы зярна праводзіцца ад 7 гадзін раніцы да 10 гадзін вечара. У часы ачысткі насеньня, з слабоднымі ад працы сялянамі аграномам І. Крупенем вядуцца заняткі, гутаркі па сельскай гаспадаркі ў агра-габінэце. Назіраецца вельмі вялікае імкненьне сялян да атрыманьня с.-г. ведаў і іх практычнаму ажыцьцяўленьню.

Аграпункт наведваюць экскурсіі вучняў і сялян.




# Некалькі слоў аб працы сялян-дасьледчыкаў.

Тры-чатыры гады таму назад сельска-гаспадарчым досьледам на полі займаліся адзінкі сялян. Кожны з іх працаваў па свойму, вывучаў тое, што яму здавалася больш патрэбным і цікавым. Ва ўсёй гэтай працы амаль ня было ні пляну, ні выразнай схэмы, і большасьць досьледаў цягнуліся толькі адзін год. Разьмеры дзялянак таксама былі рознымі і часта дасягалі 1/2 дзес. Пры такіх умовах вельмі цяжка было падсумаваць вынікі некалькіх досьледаў [1]).

Але гэта было ў пачатку працы, калі яшчэ толькі ўзьнікала ідэя *„Сялянскага досьледу“* і калі яна пачынала афармляцца. Далей-жа сялянскі с-г. досьлед пачынае цікавіць усё большы і большы лік аграномаў і сялян. У сялянскай с-г. часопісі „Плуг“ зьяўляюцца паасобныя артыкулы на тэму сялянскага досьледу. Пішуць і сяляне аб выніках сваёй працы.

З 1926 г. і далей часопіс „Плуг“ адчыняе спэцыяльны аддзел *„Сялянскі досьлед“*. У гэтым аддзеле ўжо на працягу амаль трох год пішуць аб сваёй працы сяляне-дасьледчыкі. Вынікі іх працы пераносяцца ў жыцьцё тысяч сялянскіх гаспадарак і дапамагаюць уздымаць ураджай. З 1927 г. пры Беларускім Навукова-Дасьледчым Інстытуце імя Леніна арганізуецца Інстытут Сялян-дасьледчыкаў, які ў першым годзе сваёй працы правёў 263 досьледы і аб'яднаў 474 селяніна дасьледчыка.

З арганізацыяй Інстытуту Сялян-дасьледчыкаў, здаецца, справа сялянскага досьледу вышла на верны і шырокі шлях. Але адсюль нельга рабіць вынікаў, што праца сялян-дасьледчыкаў можа вясьціся ў ранейшых формах і абмежаваецца толькі фармальнай сувязьзю з Бюро сялян-дасьледчыкаў. Далёка не.

У гэтым годзе наша часопісь будзе імкнуцца мажліва шырэй папулярызаваць ідэю сялянскага досьледу, а таксама дапамагаць у працы пачынаючым дасьледчыкам і налажваць сувязь паміж дасьледчыкамі і Бюро Інстытуту Сялян-дасьледчыкаў.

Для папулярызацыі сялянскага досьледу і далей у часопісі будуць друкавацца артыкулы сялян-дасьледчыкаў і неабходны кіруючы матар'ял ад Бюро Інстытуту Сялян-дасьледчыкаў. Трэба пажадаць, каб і старыя сяляне-дасьледчыкі самі заняліся больш шырокім азнаямленьнем сялян з сваёй працаю і працаю другіх сялян, што пішуць у „Плуг“. Гэта дасьць нам яшчэ сотні і тысячы новых сялян-дасьледчыкаў. Не павінна быць ніводнай вёскі, пасёлку, саўхозу, калектыву, дзе не вялася-б тая

---

[1]) Гл. С. М. Тупяневіч—„Сялянскі с-г. досьлед на БССР“ 1927 г. Выд. НКЗ.

ці іншая дасьледчая праца, назіраньне над больш карыснымі прыёмамі с-г. тэхнікі, угнаеньня, апрацоўкі глебы, пашырэньнем інтэнсіўных культур і галін сельскай гаспадаркі.

Аб усіх найбольш цікавых выніках сваёй працы сяляне-дасьледчыкі павінны пісаць у часопісь „Плуг“, ці газэту—„Беларуская Вёска“, каб гэтыя вынікі маглі выкарыстаць другія сяляне (само сабою зразумела, што лічбавы матар'ял па кожнаму досьледу пасылаецца на раённую дасьледчую станцыю).

Трэба заўважыць, што пры апрацоўцы матар'ялаў для „Плуга“ большае значэньне маюць лічбы двух, трох год, чаму цікавы досьлед лепш працягнуць некалькі год.

Папулярызацыі сялянскага досьледу будзе спрыяць і пашырэньне падпіскі на нашу часопісь. Трэба ўжо лічыць за правіла, каб кожны селянін-дасьледчык чытаў нашу часопісь. Таксама трэба пашыраць „Плуг“ і сярод новых сялян-дасьледчыкаў, сялян-культурнікаў, шматпольнікаў, пасялкоўцаў і г. д.

Другое, на што трэба зьвярнуць увагу—гэта на паглыбленьне досьледаў, на большую іх тыповасьць і дасканальнасьць. У гэтым кірунку мы толькі параім усім сялянам-дасьледчыкам абавязкова дастаць і пачытаць кніжку Бюро сялян-дасьледчыкаў—*„Праграмы і інструкцыя дасьледчай працы Інстытуту сялян-дасьледчыкаў“*.

Гэта кніжка ёсьць на кожнай дасьледчай станцыі, у агранома, у хаце-чытальні, нардоме. Можна яе папрасіць выслаць у Бюро Інстытуту (Менск, Шырокая № 28). У кніжцы вельмі падрабязна апісана, як выбіраць месца пад досьлед, як ставіць, якія тэмы найбольш цікавы і патрэбны, дзе дастаць угнаеньне, насеньне і г. д. Гэта кніжка паможа ўдасканаліць сялянскі досьлед, надаць яму большае значэньне і аднатыповасьць.

Там выдрукаваны праграмы, паказаны тэмы і схэмы досьледаў. Пералічваць усё гэта тут ня трэба, бо гэта ня дасьць належнай поўнаты. Лепш усяго дастаць гэту кніжку і пачытаць яе самому дасьледчыку. З усіх тэм, якія там паказаны трэба асаблівую ўвагу зьвярнуць на тэмы мінэральных угнаеньняў, выкарыстаньне лубіну і торпу, як угнаеньня, а далей спосабы вырашэньня кармовага пытаньня праз заняты папар, падсяўныя і пажніўныя расьліны.

Ня меньш увагі трэба аддаць і пасеву караньплодаў, альбо вырашэньня кармовага пытаньня ў палявой гаспадарцы. Карыстаньне ўсімі сялянамі-дасьледчыкамі аднымі схэмамі досьледу дасьць больш цэнны і лёгка параўнальны вынік. Яшчэ ў гэтым годзе трэба правесьці сялянам-дасьледчыкам спрастаньне сваёй працы.

Разам з гэтым трэба і шырэй выкарыстоўваць вынікі ранейшых досьледаў. Шмат такіх досьледаў апісана ў нашай часопісі „Плуг“ за 1926, 1927 і бягучы год.

Шырэй сялянскі досьлед. Больш удумнай працы над ім. Праз выкарыстаньне далейшай працы сялян-дасьледчыкаў—да высокага ўраджаю.

С. Т.

---

## Парашковае ўгнаеньне ня горш гною.

У 1927 годзе гуртком селькораў у нашай вёсцы быў закладзен цэлы шэраг досьледаў на селькораўскіх і сялянскіх палёх. Досьлед з пасевам бульбы па парашковым угнаеньні быў закладзен у селяніна Кавалёва Рыгора, у такога гаспадара, які мае шырокі шнурок.

Досьлед быў закладзен 27 траўня на плошчы 770 кв. саж. з 14 дзялянкамі па 55 кв. саж. кожная. Глеба пад пасеў была ўзорана на зяб позьняй восеньню і сеяўся на ёй авёс, пад які быў пакладзен гной. Кусок глебы, на якім закладаўся досьлед, быў з пясчанай глебай, на высокім месцы і была малая надзея, што тут можа вырасьці добрая бульба. Вясною поле баранавалі і калі зямля прасохла, 26 траўня (за дзень да пасеву) пасеялі ўгнаеньне, прычым высяваліся супэрфосфат, калійная соль і салетра. На кожную дзялянку, акрамя кантрольных, высявалася ў сярэднім 10 фунтаў парашковых ўгнаеньняў, перамешваючы іх у аднолькавых долях супэрфосфату з калійнай сольлю і салетрай. На другі дзень 27 мая была пасеяна бульба. Праз тры дні адбыліся ліўні, так што ў нізкіх мясцох бульба ў сялян цалкам вымакла і не дала ўсходаў, а на гэтым вучастку ліўні шкоды ня прынесьлі. Наадварот, бульба хутка дала добрыя ўсходы. Настрой гаспадара падняўся, таму што можна было чакаць якіх небудзь вынікаў. Далейшы рост бульбы быў марудны, бо пасьля вільготнага, стала сухое надвор'е. Толькі к часу асыпаньня бульбы сталі праходзіць дажджы. Асыпаньне бульбы было два разы на леце, плужком. Канец лета спрыяў росту бульбы. Падыйдзеш к дзялянкам і зразу кідаюцца ў вочы тыя дзялянкі, дзе ўнесена парашковае ўгнаеньне, асабліва салетра. Прышоў час і капаньня бульбы. Там, дзе было пакладзена парашковае ўгнаеньне, бульба была добрая.

Вось гэты досьлед упэўніў селяніна Кавалёва Р. у карысьці парашковага ўгнаеньня, што яно ня горш гною і нават у няспрыяючае для росту бульбы лета. З гэтага году Кавалёў і яго суседзі думаюць ужываць парашковае ўгнаеньне, а гэта ёсьць шлях да інтэнсыфікацыі нашых сялянскіх гаспадарак. Сялькор **Я. Савіцкі.**

---

# Пашырайце плошчы пад кармовыя кораньплоды.

У гэтым артыкулу я выяўлю свае думкі ў сувязі з пашырэньнем пасева кармовых кораньплодаў і вырашчваньня іх на насеньне.

Што кармовыя кораньплоды пачынаюць займаць адно з пачэсных месц у вырашэньні кармовага пытаньня ня толькі Беларусі, а нават і па ўсяму СССР, гэта вядома, але яны яшчэ толькі пачынаюць пашырацца. У далейшым яны павінны і яшчэ больш пашырыцца. Кораньплоды павінны сеяцца ня толькі на гародах, а павінны заняць асобнае поле ў палявым севазвароце: гэтага патрабуе само жыцьцё ад сялян, якія хочуць павесьці культурную і прыбытковую гаспадарку, бо кармовыя кораньплоды дадуць магчымасьць выйсьці з бяскорміцы, пашырыць разьвіцьцё жывёлагадоўлі, здабыць больш угнаеньня і г. д. Такім чынам палепшыцца ўраджайнасьць усіх культур і гаспадарка стане прыбытковай, але я думаю, судзячы па сабе, што тут зьявіцца недахоп ў сродках. Першае, на пакупку ўгнаеньня, пакуль яна пачне здабываць у дастатнай колькасьці сваё ўгнаеньне. Другое, да чаго нашы сялянскія гаспадаркі, амаль усе не прыстасованы—к захоўваньню кораньплодаў зімою.

Я падлічваў, што на пабудову такога ці іншага хавальніка, трэба будзе 50 руб., ды на ўгнаеньне дзеля гаспадаркі, якая мае ад трох і да сямі дзесяцін пахаці, трэба будзе 150 руб., а ўсяго 200 рублёў

і гэта сума патрэбна ня меньш, як на два гады, а то і на тры. Акрамя гэтага яшчэ трэба кораньрэзка, хаця часова можна абысьціся і без яе.

Цяпер плошча пахаці ў мяне пашырылася, а да гэтага часу я меў усяго 1 дзес., але пад кораньплодамі было 600 кв. саж. Трымаў дзьве каровы, 1 каня і я ўжо падумаў аб кораньрэзцы і ручной сеялцы-палольніку „Планэт", але пакуль што абыходжуся так.

Усё тое, што я вышэй указаў, я бяру з уласнае практыкі і тут дзяржаўная дапамога, як сродкамі, так і агравeдамі неабходна. Вось за гэтым лічу мэтазгодным і ўношу прапанову, каб Белсельбанк асыгнаваў спэцыяльныя крэдыты на пашырэньне плошчы пад кораньплоды і вырашчваньне іх на насеньне. Райаграномам трэба выявіць па ўсяму раёну такія гаспадаркі і падаць сьпіс с.-г. таварыствам, якім крэдытныя т-вы пры выдачы крэдыту і павінны кіравацца.



Кармовы бурак.

Крэдыты павінны адпускацца: часткаю ўгнаеньнем, часткаю насеньнем і часткаю грашыма. На райаграному таксама павінен ляжаць абавязак правяраць ці на тую мэту скарыстован крэдыт, а у праціўным выпадку паведаміць таварыства, якое павінна, згодна законапалажэньня, тэрмінова зьвярнуць ад селяніна пазыку. Раней, як асыгнаваць крэдыты, Белсельбанку трэба запытаць праз крэдытнае т-ва і райаграномаў сьпісы, колькі такіх гаспадарак знойдзецца і колькі якой патрабуецца крэдыту насеньнем, угнаеньнем і грашыма, а таксама якога насеньня і якога ўгнаеньня (вядома не правышаючы 200 руб.) і гэта ў тым выпадку, калі селянін будзе сеяць ня менш, як $^1/_2$ дзес. кораньплодаў на корм і 100 кв. саж. на насеньне, а як меней, то гэту суму трэба зьменьшыць.

Што-ж датычыцца разьвядзеньня насеньня кармовых кораньплодаў у сялянскіх гаспадарках, дык гэта магчыма, але не ва ўсіх. У першую чаргу гэта магчыма на хутарох, якія знаходзяцца на значнай адлегласьці ад вёсак, а ў другую чаргу гэта магчыма на тых пасёлках, дзе пароблены шырокія сядзібы, а ў вясковых гаспадарках зусім немагчыма, бо там кожная сялянка на сваім гародзе садзіць кораньплоды на насеньне розных, часта нікуды ня вартых, сталовых сартоў, дык вядома праз скрыжаванае апылкаваньне кармовых з сталовымі і, нават, кармовых аднаго сорта з другім.

Вось гэта ўсё тое, што падказала мне мая практыка, як маладога пачынаючага будаваць гаспадарку селяніна.

Сел. **Янка Судак.**



# Досьлед пасеву кармовых буракоў па штучным угнаеньні.

Вясною мінулага году ў нас быў заложаны дасьледчы вучастак, з пасевам кармовых буракоў па штучным угнаеньні. Плошча вучастку ў 192 кв. сажні была разьбіта на 4 роўных дзялянкі па 48 кв. саж. кожная.

Расьліны папярэднікі буракоў: да 1923 году поле лежала гадоў пяць аблогам, у 1923 г. быў звычайны сялянскі папар, восеньню было пасеяна жыта (бяз усякага ўгнаеньня) у 1924 г. было жыта; ураджай якога ня больш 15-16 пудоў на дзесяціну; у 1925 готзе, папар. На працягу ўсяго лета поле добра апрацоўвалася і ачышчалася ад смецьцякоў. Восеньню быў паложан гной 2.400 пуд. на дзесяціну і пасеяна жыта. У 1926 г.—жыта па жыце, вясной была падсеяна сэрадэля, ураджай жыта 55 пуд. на дзесяціну.

Апрацоўка вучастку і ўгнаеньне: у 1926 годзе як жыта было зжата і праз тыдзень як адрасла сэрадэля, увесь вучастак быў узоран на глыбіню 2—2½ вяршкоў, праз тыдні два поле баранавалася звычайнай бараной. Восеньню быў паложан гной 2.400 пуд. па разьліку на дзесяціну і заворан на глыбіню 4-х вяршкоў.

Уся апрацоўка рабілася звычайным сялянскім плугам. Вясною ў 1927 г. у першай палове мая было ўнесена на тры дзялянкі штучнае ўгнаеньне. Праз тыдні два ў другой палове мая м-ца па ўсім вучастку былі пасеяны буракі. Пасеў праводзіўся ручным спосабам, буракі былі пасеяны ў радкі, рад ад рада па 10½ вяршкоў. Догляд за буракамі: як толькі буракі падрасьлі зьявілася шмат травы; трава зараз-жа аполвалася. На працягу лета буракі палолі 3 разы і тры разы прарэджваліся, а пасьля кожнага прарэджваньня асыпаліся асыпнікам. Вынікі досьледу былі наступныя:

| № дзялянкі | Угнаеньне, якое і колькасьць | | Вучот ураджаю | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|
| | На дзялянку | На дзесяц. | З дзялянкі | З дзесяціны | |
| 1. | Безугнаеньня | . . . . | 21 п. | 1.050 п. | Угнаеньне толькі штучнае, а гной быў унесен увосень пароўну на кожную дзялянку—48 пуд. або на дзесяціну 2.400 пуд. |
| 2. | Калійная соль 8 ф. | . . . . 10 п. | 21 п. | 1.050 п. | |
| 3. | Суперфосфат 10 фун. | . . . . 12,5 пуд. | 30 п. 15 ф. | 1.518 п. 30 ф. | |
| 4. | Калійн. соль 8 ф.+суперфосфат 10 ф. | К. соль. 10 п. + суферф. 12,2 пуд. | 41 п. 10 ф. | 2.062 п. 20 ф. | |

Глеба і падглеба—лёгкі суглінак, шнур мае схіл на поўдзень. Сорт буракоў Эккердорфскія жоўтыя

Як бачым, самыя лепшыя вынікі атрымаліся па суперфосфату разам з калійнай сольлю, а таксама і па аднаму толькі суперфосфату;

па аднэй калійнай солі павышэньне ўраджаю ня было. Там, дзе не хацела расьці нават грэчка (грэчка, у нас лічаць, будзе расьці на самой горшай зямлі) пры добрай апрацоўцы, угнаеньні і доглядзе,—парасьлі добрыя буракі. Скармлівалі буракі мы каровам—што ад дачы буракоў, каровы значна павысілі дачу малака.

Селянін **М. А. Казімірчык.**

(Смалявіцкі раён).

## Практыка над капустай.

У мінулым годзе я задумаў папрактыкавацца над тым, які сорт капусты выгадней разводзіць на нашай зямлі. Насеньне дастаў наступных сартоў: браўншвэйскай, сабураўскай славы і яшчэ, дзякуючы Я. Марозу, атрымаў ад яго 5 грамаў, як мы яе называем, марозаўскай. Усё насеньне было высеяна ў парніку.

Поле (канаплянішча) пад капусту было заворана з восені, але гной не вазіўся. Вясной, як толькі прасохла зямля, поле было добра выскараджана, а за тыдні паўтары да пасадкі—заворана. Потым разьмераў так, каб рад ад раду быў на 16 вяршк. і ў радзе расьліны былі на такой-жа адлегласьці. Матыкамі нарабіў у намечаных мясцох ямкі і ў кожную ямку клаў па добрай жмені перапрэўшага авеччага гною. Далей зьмяшаў кароўяга гною з глінай і ў яго мачаў карэньчыкі расады пры пасадцы. Пасадку рабіў 20-га мая. Пасьля пасадкі паліў усяго адзін раз і расада прыжыла. У працягу лета капуста матычылася і абганялася акучнікам, пакуль ня сышлося лісьце.



**Белакачанная капуста.**

К восені я меў такія вынікі: браўншвэйская і сабуроўка далі зусім кепскія вынікі, слава і марозаўская—добрыя. Лепшы за ўсе сарты вышла марозаўская, качаны яе былі па 16 фунт. Многа перавагі яна мае перад іншымі сартамі. Першае, гэта яе выносьліваcьць, нізкая качарыжка, якая мала ўваходзіць у качан, цьвёрдая шчыльна зложаная галоўка і тонкія белыя, як снег лісточкі.

На выстаўцы ў „Дзень Ураджаю“ марозаўская капуста зьвярнула на сябе ўвагу ваколічнага сялянства. Сяляне вельмі зацікаўлены гэтым сортам і многія прасілі качаноў на высадкі.

Селянін **Ул. Юркевіч.**

(Горкі, Чэрвоншчына).

## Засявайце пялюшку.

Ад аднаго агранома я даведаўся, што арцель Флорынава (каля м. Умны) засявае шмат пялюшкі. Пялюшка ідзе на корм сьвіньням і каровам. Глеба ў Флорынава пяшчаная, а дзякуючы пялюшцы сябры арцелі паднялі прыбытковасьць сваіх гаспадарак і жывуць у поўным дастатку.

Вось я і напісаў у арцель Флорынава, каб яны прыслалі мне 10 пуд. пялюшкі. Але там яе ўжо ня было, усю распрадалі. Тады ў складзе Сельсаюзу я знайшоў трохі заляжалай, моцна затхлеўшай, пялюшкі. Я купіў 20 пуд., але пры гэтым з мяне ўзялі падпіску, што ні сеяць, ні прадаваць на пасеў пялюшку я ня буду, а скармлю яе ска-

цінай. Ня гледзячы на гэта, я яе трохі пасеяў. Гэта проба на ўсходжасьць дала амаль здавальняючыя вынікі. Тады я пасеяў усе 20 пуд. заняўшыя 9-е поле севазвароту. Пасеялі мы 15-га чэрвеня, а 10 ліпеня пялюшка пачала красаваць і я стаў касіць яе і карміць ёю скаціну, даючы, прыблізна, $1^1/_2$ п. на галаву. Каровы, свіньні, гусі з вялікай ахвотай ядуць пялюшку, бо ў ёй ёсьць шмат бялкоў. Вялікая вартасьць пялюшкі ў тым, што яна расьце на пяшчанай глебе, нават больш таго, у той час, як канюшына на добрай глебе трымае ў сабе да 8,5 проц. бялкоў, палюшка на пяшчаніку мае ў сабе да 17 проц. бялкоў.

Асабліва добра расьце пялюшка на печным попелу да 20—40 пуд. на дзес. Пасьля пялюшкі, як пасьля азоцістай расьліны, вельмі добра растуць жыта і гароднiна, асабліва бульба. Мука пялюшкі можа замяніць макуху і высеўкі.

Усе гаспадары, якія працуюць на пяшчаных глебах, павінны засяваць пялюшку, бо гэткім шляхам яны значна падымуць прыбытковасьць сваіх гаспадарак.

Селянін **Г. Шасьцітка.**

## Колькі прыбытку атрымаеш з $^1/_2$ дзесяціны канюшыны.

Сяўбою канюшыны мы займаемся з 1914 г. і за гэты час ужо добра ўпэўніліся ў яе карысьці. У 1927 г. мы мелі 1 дзес. канюшыны другога ўкоса і $^1/_2$ дзес. першага. Трэба адзначыць, што паўдзесяціны першага ўкосу далі ўдвайне больш прыбытку, чым дзесяціна другога ўкосу. Як толькі спаў сьнег і зямля трохі абсохла, мы зараз-жа канюшыну пабаранавалі ў адзін сьлед, праз пару дзянькоў прайшоў дожджык і яна зазелянела ва ўсю. Мокрая вясна і частае выпаданьне дажджу вельмі спрыяла росту канюшыны, так што 15 чэрвеня прышлося гэты кавалак чуць ня ўвесь скасіць. Пакінулі толькі кавалак на насеньне, дзе канюшына не палягла. Надвор'е стаяла сухое, так што за тры дні прыбралі і атрымалі каля 200 п. сена лепшай якасьці.

Дзякуючы кепскай сухой пагодзе пасьля касьбы, атава расла ня хутка і яе парашылі стравіць жывёлаю, бо ў час сяўбы азіміны патрэбна было карміць добра коняй. Такім чынам, прадаўшы гэта сена сама дзёшава па цяперашнім цэнам (па 50 кап. пуд) мы атрымаем 100 р. прыбытку, ня лічачы таго, што кармілі коняй у час сяўбы. Такім чынам, я ўпэўніўся, што сяўба канюшыны гэта—ключ к прыбытковасьці гаспадаркі.

Сяляне Беларусі, бярэцеся за сяўбу канюшыны.

**Янка з-пад Магілёва.**

## Як наша вёска перашла на шматпольле.

Суседу нашай вёскі Пімену Юр'еву аграном даў кніжку. Пімен чалавек няпісьменны, а таму ён аддаў яе мне. Я ўзяў, паглядзеў, бачу „Плуг". У кнізе ўсё артыкулы па сельскай гаспадарцы—як сеяць лубін, буракі, яравую пшаніцу і г. д. Дачытаўся да артыкула „Што дало шматпольле Хомку Зеляпугу", прачытаў, як Хомка жыў раней на 12 дзес. і як жыве цяпер на $6^1/_2$ пры 8-мі польным севазвароце. Падлічыў яго

прыбытак з $6^1/_2$ дзес., а потым свой з $7^1/_2$ дзес. Хомкава зямля дае прыбытку ў год 653 р. 50 к., а маё трахпольле 503 р. 70 к.—на 150 р. меньш. Я і задумаў зрабіць, як зрабіў Хомка Зеляпуга. У нядзелю ка мне прышлі мае суседзі, я ўзяў кніжку і пачаў чытаць, як жыве Хомка і які прыбытак дае яму дзесяціна пры 8-мі польным севазвароце. Старыя ўступілі са мной у спрэчкі і казалі, што гэта няпраўда і напісана байка. І таму калі я пачаў гаварыць, што і нам трэба перайсьці на шматпольле, дык ніхто і слухаць не хацеў. Але ні ў забаве на адным з сходаў, я зноў падняў аб гэтым пытаньне. На сходзе было больш маладых і сярэдняга ўзросту людзей, якія паслухалі мяне і парашылі падаць заяву ў Горацкі РВК, каб праслалі аграномa для пераводу нас на шматпольле. РВК адказаў, што калі хочаце шматпольля, дык трэба за земляўпарадкаваньне плаціць 75 кап. з дзес. Гэта нас прымусіла забыць шматпольле. Але ў маі 1927 г. у сяло Шарыпы прыехалі студэнты Горацкай С.-Г. Акадэміі пераводзіць некалькі гаспадарак на шматпольле. Я ўведаў, што студэнтам плаціць ня трэба, і тады прапанаваў сябру с.-с. нашай вёскі сабраць сход і вырашыць пытаньне аб шматпольлі. Зноў парашылі напісаць заяву. Напісалі заяву 27 гаспадароў, выбралі 2 упаўнаважаных і аднесьлі заяву ў сяло Шарыпы супрацоўнікам Акадэміі аграномам М. Лайкову і Ф. Плятнеру, якія кіравалі працай студэнтаў. Заяву нашу прынялі і на трэцьці дзень яны прыехалі з групай студэнтаў у нашу вёску Калацілы. Кожнаму запісанаму ў сьпіс гаспадару, аграномы назначылі па аднаму студэнту; вечарам сабралі сход і нам растлумачылі карысьць шматпольля, а на другі дзень пачалася праца. Я прасіў, каб мне зрабілі такі севазварот, які ў Хомкі Зелепуга і паказаў ім „Плуг“. Аграном паглядзеў і кажа, што гэта мой артыкул, гэта я апісаў гаспадарку Хомкі Зелепуга. Вось маё прозьвішча М. Лайкоў. Тады нашы Калацілаўцы паверылі, што артыкул пра Хомку Зеляпуга ня байка. Такім чынам у нашай Калацілаўцы 27 гаспадарак перайшлі на шматпольле [1]).

Вёска Калацілы. Селян. **Г. Каралькоў.**

---

[1]) Ліст селяніна Каралькова, дзеталёва высьвятляе, якім чынам сяляне вёскі Калацілы дайшлі да пераходу на шматпольле.

Аб тым, што „Плуг“ ужо даўно заваяваў права грамадзянства сярод сялян і аграномічных працаўнікоў БССР, спрэчак няма. Але, як ён выконвае сваю ролю, які ўплыў мае на перабудову сялянскае гаспадаркі, аб гэтым мала гаворыцца і падагульваецца.

Папулярная часопісь і кніжка толькі тады і каштоўныя, калі яны поўнасьцю зразумелы для сялянства. А зразумелай яна можа быць толькі тады, калі закранае самыя першачарговыя пытаньні і выкладае іх на простай, зразумелай мове. У гэтым сэнсе „Плуг“ зьяўляецца адпавядаючай с.-г. кніжкай для селяніна Беларусі. Той-жа самы Гаўрыла Каралькоў, ніколі ня ўчыўшыся ў беларускай школе, нават і не заўважыў, што часопісь напісана пабеларуску.

Другое, што мне хацелася адзначыць, гэта пытаньне аб неабходнасьці наладзіць сталае вывучэньне тых уплываў, якія робіць часопісь „Плуг“ на сваіх чытачоў—сялян і на ваколічнае іх насельніцтва. Я ўпэўнен, што сотні такіх-жа Каральковых Гаўрылаў, чытаючы „Плуг“ штосьці такое пробуюць у сваіх гаспадарках і ўжо шляхам апавяданьня і паказу на прыкладзе сваіх гаспадарак, робяць вялікую справу перабудовы сялянскае гаспадаркі.

Гэты ліст Г. Каралькова ёсьць спробы падагульваньня расткоў аднаго зярняці, упаўшага на глебу адной досыць глухой вёскі Аршанскае акругі.

Як ужо адзначаецца ў лісьце Каралькова, пад уплывам часопісі „Плуг“ перайшло на шматпольле 27 гаспадароў вёскі Калацілы. Працу па пераводу на шматпольле выконвалі студэнты Беларускае С.-Г. Акадэміі пад нашым кіраўніцтвам.

*М. Лайкоў.*

## Сялянам-дасьледчыкам трэба праверыць.

Раю спрабаваць спосаб гадоўлі, бульбы які існаваў у Станіслававе, Віцебскай акругі на працягу 12 гад. Бульба ніколі ня высаджвалася па сьвежаму гною, а заўсёды пасьля ўгноенага жыта, альбо канюшыны. Гаспадаром, у якіх глеба пустая, трэба браць кампост, альбо штучнае ўгнаеньне. Калі ў гаспадарцы няма кампосту, дык можна браць звычайную глебу, добра прамешваць з ёй па колькасьці $^1/_3$ штучнага ўгнаеньня: для цяжкіх глеб — супэрфасфат: для пульхных — тамасаўку. Узорваць з восені і пасьля вясеньняй апрацоўкі, калі наступіць час, садзіць бульбу. Асыпнікам, альбо сахой робяцца няглыбокія барозны. У барозны на адлегласьці 36 сантымэтр. саджаюць бульбу сярэдняй велячыні, каб бульбіны ляжалі па простай лініі на сярэдзіне баразны. За першай жанчынай, якая саджае бульбу, ідзе другая з кашом кампоснай зямлі, альбо зямлі з штучным угнаеньнем і на кожную бульбіну кідае жменю гэтай зямлі. Потым бульба заворваецца. Трэба добра прыкрыць яе зямлёй. Наступныя рады бяруць на адлегласьці 72 сант. Рады лепш браць з захада на поўдзень і рабіць так, каб яны былі дасканала простымі. Калі толькі пачнуць зьяўляцца першыя ўсходы, а за гэтым трэба ўважліва сачыць, і пакуль яшчэ не разаўюцца першыя лісткі, тады прыступаюць к першаму асыпаньню. Асыпаньне трэба рабіць вельмі асьцярожна, роўна прайшоўшы па баразьне і зусім прыкрыць паросткі, якія зьявіліся. Далей зноў трэба сачыць за зьяўленьнем паросткаў і, як толькі яны пачнуць зьяўляцца, зрабіць другое асыпаньне, зноў засыпаць іх зямлёй. Потым, такім чынам, зрабіць трэцьце асыпаньне; адным словам, трэба старацца, як далей мага утрымліваць пад зямлёй паросткі. Што-ж дасягаецца гэтым шматразовым асыпаньнем? Дасканала зьнішчаюцца сьмяцьцёвыя травы, павялічваецца каранёвая сыстэма, а разам з тым і падземная частка сьцябла на якім вырастае многа бакавых сьцяблоў, на якіх растуць бульбіны. Асыпаньнем зьнішчаецца зьлегласьць глебы, якая надта асядае пасьля дажджоў, і гэтым утвараюцца добрыя ўмовы для доступу паветра да падземнай часткі бульбы. За два тыдні да красаваньня робіцца апошняе асыпаньне. Пры гэткай гадоўлі бульбы заўсёды атрымліваюцца добрыя ўраджаі.

**В. Чэмелаў.**

---

## Да мэтодыкі працы сялян-дасьледчыкаў.

З цэлага шэрагу ўмоў мэтодычнага характару ў працы сялян-дасьледчыкаў, а часамі нават і ў працы дасьледчых станцый, як-бы не заўважваецца адна, як мне здаецца, самая галоўная ўмова.

Напрыклад, мы хочам паставіць досьлед з угнаеньнем пад бульбу. Здаецца, усё зразумела, трэба толькі адзначыць дзялянкі, палажыць угнаеньне, пасеяць і ўсё. Яно так і бывае, але ня можна ставіць досьлед над бульбай, калі насеньне складаецца з зусім выпадковай разнастайнасьці сартоў. Можна-ж правільна паставіць досьлед з ацэнкаю ўплыву таго ці іншага ўгнаеньня на ўраджай сартоў бульбы, напрыклад, вольтмана, сілезіі, браваркі, раньняй розы ці інш кожнага паасобку.

Чаму гэта так, чаму ня можна ставіць досьлед на ўгнаеньне пад бульбу наогул. Рэч зусім зразумелая. Ставячы досьлед з бульбаю на ўгнаеньне, мы раўняем, напрыклад, гной з торпам ці фосфарытам у розных камбінацыях і маем для параўнаньня дзялянку бяз гною.

Увосень, калі выкапаем і зважым ураджай з дзялянак, дык атрымаем найбольшы ўраджай з кантрольнай дзялянкі, іменна з тэй дзялянкі, на якую гной зусім ня быў палажан. У чым-жа справа? Аказалася, што зусім выпадкова мы на кантрольнай дзялянцы пасеялі чысты, ураджайны сорт бульбы, напрыклад, вольтман, даўшы высокі ўраджай, а на другіх дзялянках таксама выпадкова папалі помясі хворых, няўраджайных сартоў, якія на палову прапалі. Вось тут і раўняй! Зразумела рэч, што ніякага параўнаньня паміж ураджаямі з гэтых дзялянак быць ня можа, бо ў данным выпадку, нават не вядома, што з чым раўняць: ці ўгнаеньне, ці сарты, якія таксама вывучаюцца на ўраджай, як і ўплыў угнаеньня.

Ад гэтуль зразумела, што мы павінны прыняць пад увагу яшчэ і якасьць сорту бульбы, ячменю, жыта і інш. Не адно і тое-ж атрымалі-б мы пасеяўшы, напрыклад, добрыя кармовыя буракі ў паасобку і ў помесі іх з рэдзькаю. Так і з бульбаю. Бульбы цяпер налічваецца ў нас да 60 сартоў, з якіх адны выпадаюць, аджыўшы свой век, а другія найбольш ураджайныя і трывалыя супроць розных хвароб становяцца на іх месца. У нас на БССР сярод добрых сартоў вельмі значны процант кволых, няўраджайных, якія толькі разносяць хваробы і ад якіх мы павінны пазбавіцца.

Можа здарыцца і так, што дзялянка захварэе чорнай ножкай ці іншай хваробай, да 5-10% і больш. З гэтым дасьледчык таксама павінен палічыцца і выкінуць хворыя кусты, запісаўшы гэта ў сваю кніжку нагляданьняў.

Наогул за здароў'ем сартоў бульбы ва ўсіх выпадках неабходна назіраць і хворыя ўдаляць, адзначыўшы ў кніжку назіраньняў.

Трэба, гэдак сама, ўлічваць процант (хаця-б прыкладны) засьмечанасьці пасеваў дзікімі травамі, якія асабліва злосна распаўсюджаны на суглінках.

Пры пастаноўцы досьледаў з угнаеньнем пад бульбу, можна раіць браць сорт сілезію (белыя клубні), якая ў нас вельмі распаўсюджана; будучы заводзкім добрым сортам яна патрэбна ўсюды і на розных глебах. Няма тэй вёскі, дзе-б ня сустрэлася сілезія. Добра вельмі браць вольтман ці браварку: гэта чыстыя заводзкія сарты распаўсюджаны ў раёнах бравароў і крухмальняў, даюць чырвоныя клубні, якіх ня можна блытаць з ружовымі—раньняй розаю ці амэрыканскай.

**А. Дзямідовіч.**

---

# Пытаньні і адказы па зямельных справах.

Пытаньне 99. Як паступаць у тых выпадках, калі грамадзяне розных раёнаў, сельсаветаў і вёсак жадаюць замяніць цалкам свае гаспадаркі з будынкамі па сваяцтву і ці можна, наогул, дазваляць замену цэлых гаспадарак, а не паасобных шнуроў (Крычаўская райземкамісія).

Адказ. Мена зямлі, каб ня даць магчымасьці прыкрыць менаю продаж ці дараваньне зямлі, можа рабіцца, на грунце арт. 26 зям. код. і тлумачэньня АКВК па журналу № 6, толькі з дазволу зямельных органаў і пры тым для зьнішчэньня праспалосіцы, дальназямельля і іншых недахопаў землякарыстаньня. Дзеля чаго не павінна дазваляцца мена, якая выклікаецца сваяцкімі адносінамі, а не жаданьнем палепшыць умовы вядзеньня гаспадаркі. Мяняцца, наогул, можна ня толькі паасобнымі шнурамі, але і цэлымі гаспадаркамі, напрыклад: дзеля ўтварэньня сельскагаспадарчага калектыву могуць мяняцца цэлымі гаспадаркамі нясумежныя землякарыстальнікі.

---

*) Можа здарыцца, што на тую ці іншую дзялянку пападзе сорт бульбы досыць ураджайны і засьмечаны другімі хворымі сартамі ў меншай меры, чым на другіх дзялянках; гэтакія выпадкі мне прыходзілася заўважваць.

# ПРАЦА НА БАЛОЦЕ

## Прычыны пагоршаньня нашых сенажацяў.

Для таго, каб пачаць праводзіць палепшаньне сенажацяў, сельскаму гаспадару трэба азнаёміцца з тымі прычынамі, дзякуючы якім нашы сенажаці даюць дрэнныя ўраджаі—гэта з аднаго боку, а з другога—з тым, што адбываецца з глебай сенажаці і травамі па меры таго, як сенажаць старэе.

Прычыны гэтаму наступныя:

1. *Высіленьне глебы*—гэта адна з галоўных прычын пагоршаньня расьліннасьці нашых сенажацяў. Калі гаспадары клапацяцца аб пад-



**Выгляд неасушанага балота.**

трыманьні ўраджайнасьці зямлі на палёх, аруць, скародзяць, угнойваюць і даюць ёй гадавы адпачынак кожныя тры гады, дык для сенажацяў гэтага ня робіцца. Іх на працягу вякоў косяць, страўліваюць жывёлай і рознымі спосабамі імкнуцца, каб узяць ад іх як мага больш. А трэба-ж ведаць, што разам з травой мы бярэм ад сенажацяў і тую матэрыю, без якой ня можа жыць ніводная расьліна. Звозячы з кожным годам сена з нашых сенажацяў, мы гэтым самым звозім і гэту спажыўную матэрыю, гэтыя сокі нашых сенажацяў. Гэтай спажыўной матэрыі ўсё меньш і меньш застаецца ў глебе сенажацяў і расьліннасьць адчувае недахоп яе. Па меры высіленьня глебы мяняецца і яе расьліннасьць: высокія добрыя травы, як пырнік, цімафейка і інш. зьнікаюць, уступаючы сваё месца больш дробным расьлінам—мятлікам,

палявіцы і г. д. З цягам часу і гэтыя травы, забраўшы рэшту спажыўное матэрыі з глебы, зьнікаюць, а іхнае месца займае яшчэ меньш пераборлівая расьліннасьць, пакуль зямля да таго высіліцца, што на ёй перастануць зусім расьці травы, больш меньш прыгодныя для корму жывёлы. А калі-б мы зьвярталі глебе хоць частку тэй спажыўной матэрыі, якую штогодна звозім разам з сенам, хоць чым-небудзь угноівалі нашы сенажаці, дык яны-б давалі добрыя ўраджаі доўгі час.

Такім чынам мы бачым, што сенажаць, як і поле патрабуе ўгнаеньня, у іншым выпадку глеба іх высіляецца і яны перастаюць радзіць.

2. *Зьлегласьць глебы*—другая прычына зьмяншэньня ўраджайнасьці сенажацяў. Адбываецца гэта таму, што з аднаго боку, сенажацяў ніколі ня ўздымаюць, а з другога, імі несваячасова і няправільна карыстаюцца для выпасу жывёлы. Вясной, калі пожні моцна насычаны вадой, калі зямля яшчэ мяккая і вязкая, скаціна ўжо выганяецца на сенажаці. У гэты час стада вельмі зьбівае верхні пласт зямлі і кволыя карэньчыкі траў і, такім чынам, зьнішчае тую моц, якая потым дала-б мажлівасьць росту многім добрым травам. Тут трэба ўспомніць аб тым, як добры гаспадар аберегае маладыя ўсходы хлябоў ад патравы.



**Ворыва трактарам асушанага балота.**

На сенажацях, акрамя шматгадовых траў, якія з году ў год растуць ад свайго карэньня, расьце таксама вялізарная колькасьць аднагадовых, якія вырастаюць з апаўшых зерняў травы. Усходы гэтых аднагадовых траў асабліва моцна церпяць ад раньняга выпасу,—яны яшчэ не пасьпеўшы добра ўкараніцца, масамі гінуць пад капытамі жывёлы. Трэба адзначыць, што ў зьбітую глебу слаба праходзяць цяплынь, вада і паветра без чаго ня можа расьці ніякая расьліна.

Найлепш растуць травы на пульхнай глебе, якая бывае пасьля таго, калі сенажаць добра паскародзяць альбо ўзаруць і калі яшчэ патрымаюць пад пасевамі хлябоў ці бульбы. На такіх мясцох трава расьце асабліва добра. Такім чынам, гаспадары, якія берагуць свае сенажаці, ніколі не павінны выпушчаць сваю скаціну раньняй вясной або дажджлівай восеньню на сенажаці. Выпас скаціны на сенажацях у сухую пагоду—летам ці раньняй восеньню ня так моцна шкодзіць.

Зьлегласьць дзярніны бывае таму, што карэньні траў з кожным годам усё больш і больш пераплятаюцца паміж сабой. Урэшце гэта парапляценьне робіцца пахожым на лямец, які не прапускае ў зямлю ні вады ні паветра, перашкаджаючы тым самым нармальнаму разь-



**Выгляд засеянага балота.**

віцьцю траў. Вось чаму на такіх сенажацях і ня бывае добрых ураджаяў. Лепшым зельлем супроць такое хваробы, як дзярніца, зьяўляецца моцнае скароджаньне сенажацяў раньняй вясной і ўвосень, што спрыяе больш хуткаму і поўнаму пераправаньню адмёршых падземных частак расьлін, а гэта дасьць мажлівасьць больш вольна праходзіць у глебу вадзе і паветру.

3. *Мох* зьяўляецца, галоўным чынам, на сырых, альбо на высіленых глебах. Гэта вельмі шкодная расьліна (паразыт) для другіх расьлін. Зьявіўшыся раз, ён шпарка распаўсюджваецца і тоўстай коўдрай усьцілае пожні, не прапускаючы ў глебу ні вады, ні паветра, ні цяплыні. Такія сенажаці доўга не ажываюць з вясны, а восеньню не даюць ніякае атавы. Зьнішчыць мох можна альбо шляхам счэсваньня яго спэцыяльнымі баронамі ў час адтайваньня сенажаці, альбо толькі ўспашкай такой сенажаці.

4. *Лішкі вільгаці або забалочанасьць* таксама зьяўляецца прычынай пагоршаньня сенажацяў. Ад такіх лішкаў вады трэба пазбавіцца ў першую чаргу, таму што на такіх сенажацях звычайна расьце мох, сітнякі ды асака. Застой вады выганяе з глебы паветра, без якога ня

можа жыць ніводная расьліна, карэньне траў пачынаюць пагэтаму задыхацца і гінуць. Акрамя таго ў глебе зьяўляецца іржа, вельмі шкодная для карэньня расьлін. Мала таго, адмёршае карэньне траў само ня можа перапраўляць у такой глебе без паветра і ў выніку палучаецца торп, у якім таксама маецца шкадлівая матэрыя для расьліннасьці (асаблівая кваснасьць). Такім чынам забалачваньне вядзе да пагоршаньня сенажацяў, чаму абавязкова трэба спушчаць лішкі вады шляхам расчысткі вадасьцёкаў і правядзеньня канаў.

5. *Недастача вільгаці* адчуваецца на сенажацях, якія знаходзяцца на высокіх мясцох, што таксама вядзе да дрэнных ураджаяў траў. Трэба ведаць, што сенажаці патрабуюць удвое больш вільгаці чым нівы, а пагэтаму такія высокія мясьціны лепш пусьціць пад распашку для пасева хлябоў ці канюшыны. Для сенажацяў-жа прыродных гэтыя мясьціны не падыходзяць.

6. *Кусты і куп'я* таксама надта шкадлівы для сенажацяў тым, што не даюць мажлівасьці разьвівацца добрым травам. Куп'я ствараюцца, галоўным чынам, у выніку пасьбы скаціны на мокрых сенажацях у сырую пару года. Такія куп'я трэба зрэзваць звычайнай жалезнай рыдлёўкай альбо матыкай. Што тычыцца спэцыяльных куп'ярэзаў, дык на іх ня варта выкідваць грошы, таму што ўсё роўна ніводны з іх ня можа справіцца з вялікімі кучамі зьбітае зямлі. Такія мясьціны, паросшыя кустамі і куп'ямі, стаяць іншы раз сотні год бяз усякае карысьці і ўбіраюць у сябе вялізарныя запасы спажыўной для расьлін матэрыі. Распрацоўка гэтых зямель —справа, бязумоўна, вельмі карысная, але спачатку яны павінны быць абсушаны, выкарчаваны пні, зрэзаны куп'я і пушчаны пад распашку ды пасевы траў.

7. *Позьняя касьба* шкодзіць сенажацям тым, што к гэтаму часу пасьпяваюць малакаштоўныя засьмецьваючыя травы і рассыпаючы сваё семя, разносяцца ветрам па ўсёй лагчыне. Таму, каб не разводзіць сарнякі, ня трэба ніколі марудзіць з пакосам. Найлепшы час для пакосу гэта час красаваньня добрых траў. Меркаваньне-ж, што пры позьняй прыборцы будзе больш сена—памылкова. Позьняя прыборка дае саломістае, лёгкаважнае і мала спажыўное сена, у той час, як прыборка яго ў час красаваньня дае непараўнаўча больш спажыўное і цяжкаважнае сена.

Вось і ўсе галоўныя прычыны пагоршаньня нашых сенажацяў.

Кожны гаспадар, пажадаўшы заняцца палепшаньнем сваіх сенажацяў, павінен знайсьці якая з гэтых прычын яму шкодзіць і калі ён знойдзе гэту прычыну, дык справа дапамагчы ўжо будзе ня цяжка.

Спэцыялісты па культуры сенажацяў і балот **А. Паржэцкі.**

---

# Колькі год дзейнічае (мае ўплыў) угнаеньне на балоце.

Парашковыя ўгнаеньні даволі каштоўны, таму пры ўжываньні іх на балоце, побач з высьвятленьнем пытаньня аб патрэбах балота на тыя ці іншыя віды ўгнаеньняў і нормах іх пад розныя культуры, важна выявіць яшчэ і тое, як дзейнічае раз унесенае ўгнаеньне ў працягу далейшых гадоў, інакш кажучы, выявіць уплыў яго на ўраджай далейшых культур.

Назіраньні ў гэтым напрамку рабіліся пад культурай віка-аўсянай мешанкі, тэрмін пасеву якой найдаўжэйшы на балотнай станцыі (5 год).

Засевы віка-аўсянай мешанкі рабіліся і на дасьледчых дзялянках і на палёх гаспадарчых засеваў. Звычайна мешанка выявілася па ўзоранай цаліне і толькі ў спэцыяльных выпадках (досьледы) у другі ці трэці год культуры балот. Угнаеньне ўносілася ў колькасьці 12 пуд. калійнай солі+18 пуд. тамасаўкі на дзес. Насеньне мешанкі пашло 10 пуд. (5 пуд. вікі і 5 пуд. аўса). Пасеў рабіўся ў сярэдзіне мая. Вучот ураджаю (сырой і сухой масы) праводзіўся на пробных, 1 кв. саж. плошчах, якіх бралася ня меньш 5-ці.

Дзеля спрашчэньня, шэраг атрыманых лічбовых даных ніжэй падаецца ў табліцы:

| НАЗВА ДОСЬЛЕДУ | Гады закл. досьл. | Памер плошчад. | Ураджай на д. у пуд. | | Велічыня ўраджаю | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Сярэдні | Адхіленьне у % па гад. | У %% | У %% да 100 |
| Віка па ўгнаеньню ў год унясеньня . . . . | 1922-26 | 1/2—4 д. | 269 | 10<br>10 | 100 | — |
| У 2-гі год па ўнесенаму ўгнаеньню . . . . | 1923-26 | 1/4—2 д. | 240 | 13,3<br>12,5 | 89 | 11 |
| У 3 год па ўнесенаму ўгнаеньню . . . . | 1926 | 1/4— „ | 156 | — | 58 | 42 |
| Без ўгнаеньня . . . | 1922-26 | — | 135 | 14<br>18 | 50 | 50 |

Даныя паказваюць на паступовае зьніжэньне ўраджаю масы, што, бязумоўна, залежыць ад памяньшэньня ў глебе запасаў унесенага калія, прычым, на другі год розьніца ня надта вялікая (11 проц.). У наступным (3-ім) годзе зьніжэньне заметна павялічваецца—42 проц.

Гэта паказвае, што расьліны скарысталі ўнесяны ў глебу калій і глеба зноў застаецца няўгноенай. Што галоўную ролю займае калій і яго запас у торпе, аб гэтым яскрава сьведчыць другі, меньш расьцягнуты досьлед з бульбай; бульба Вольтман высаджана ў другі год культуры балота (у 1926 г.), пасьля аўса.

Вынік вучоту дзялянак заложанай схэмы наступны:

| НАЗВА ДОСЬЛЕДУ | Ураджай на дзес. | | У %% да 100 |
|---|---|---|---|
| | У пуд. | У %% | |
| Кантроль па ўгнаеньню ў год унясеньня (к. —15 п.). . . . . | 125 | 100 | — |
| У 2-гі г. паўнясеньню 2 нормы ўгнаеньня (к.—24 п.) . . . . | 975 | 86 | 14 |
| У 2-гі г. па ўнясеньню нормы ўгнаеньня (к.—12 п.) . . . . . | 675 | 60 | 40 |
| Без угнаеньня . . . . . . . | 450 | 40 | 60 |

Паданая табліца падкрэсьлівае зьніжэньне ўраджаю бульбы ў другі год пасьля ўнясеньня ўгнаеньня. Зьніжэньне гэта складае 40 проц.

і рэзка разыходзіцца з данымі па віка-аўсянай мешанцы. Адсюль выяўляецца вялікае скарыстаньне калія папярэднім аўсом і асабліва самой бульбай, вельмі чулай да запасаў калія ў торпе: так, пры 24-х пуд. адначасовага ўнясеньня ўгнаеньня, ў тых самых умовах ураджай бульбы ў другі год зьніжаецца толькі на 14 проц. Бязумоўна (але нажаль даных ня маецца), што ў наступным (3-м) годзе зьніжэньне выявіцца шмат больш.

З усяго вышэйпаданага можна ўбачыць, што, па-першае, пры ўгнаеньні тарпяніка каліем пасьля першай культуры застаецца некаторы нявымываемы яго запас, які залежыць ад колькаснага ўгнаеньня, па-другое, дзяленьне запаснага калія ў другі год пасьля ўнясеньня залежыць ад запраўкі першага году і віду пасеянай расьліны; па-трэцяе, раптоўнае зьніжэньне запасу калія выяўляецца на трэці год пасьля ўнясеньня ўгнаеньня.

А. Шохар.

---

## Ужывайце торп на ўгнаеньне.

Торп лепей, чым салома ўбірае ў сябе гнаёвую жыжку. Тарпяное ўгнаеньне добра падвышае ўраджай. Пры тарпяным подсьцілу болей палучаецца гною. Тарпяны подсьціл даступны кожнаму селяніну.

*Торп, як подсьціл.* На падсьцілку ў хлявох у нас усюды ўжываецца салома, а торп зусім, амаль, што ня ўжываецца. Між тым у замежных краінах—у Швэцыі, Нарвэгіі і г. д. торп зараз шырока ўжываецца на ўгнаеньне.

Торп добра ўбірае ў сябе гнаёвую жыжку. Адзін фунт торпу з мохавага балота можа ўвабраць у сябе да 12 фун. гнаёвай жыжкі ў той час, як салома ўбірае толькі 3-4 фунты. Апрача гэтага, торп мае здольнасьць утрымоўваць і ўбіраць у сябе газы, якія заўсёды ёсьць у хлеве, напрыклад, аміяк, які зьмяшчае ў сабе азот—вельмі патрэбны для жыцьця расьлін. Ад гэтага тарпяны гной становіцца яшчэ больш каштоўным. Пры торпе паветра ў хлеве ачышчаецца.

*Дзеяньне тарпянога ўгнаеньня.* Пры закладцы досьледаў з тарпяным угнаеньнем на Запольскай дасьледчай станцыі, Ленінградзкай губ., выявілася, што пры саломеным гнаі ўраджай жыта быў да 56 пуд., а пры тарпяным - ураджай падвышаўся да 78 пуд. Прыбаўка, як відаць, цэлых 22 пуды.

Другі вопыт на гэтай жа станцыі паказаў, што гной з тарпянога подсьцілу мае большую ўгнойваючую сілу на працягу некалькіх гадоў.

Так, на саломеным гнаі ў першы год палучана 50 пуд. жыта, у той час, як па тарпяному палучана 60 пуд. У другі год на саломеным гнаі палучана на тым-жа вучастку 259 пуд. бульбы і на вучастку, дзе летась быў пакладзен тарпяны гной,—445 пуд. У трэці год на тарпяным гнаі вырасла аўса 39 пуд., а на саломеным толькі 30 пуд.

Па выніках Ціміразеўскай Акадэміі зазначаецца, што пры трыманьні аднэй колькасьці жывёлы, пры тарпяным подсьцілу палучаецца на 15% гною больш, чым пры саломеным.

Апрача таго, торп дае эканомію саломы, якая заўсёды можа пайсьці на корм жывёле.

Тарпяная падсьцілка мае і іншыя добрыя бакі. Яна дае мяккі і чысты подсьціл жывёле, ачышчае паветра, чым пазбаўляе ад шмат якіх хвароб жывёлу. Напрыклад, у коняй ад такога падсьцілу радзей сустракаюцца хваробы: падсед, макрэц і інш.

*Як падсьцілаць торпам.* Подсьціл кладзецца пластамі, у 3-4 вяршкі таўшчынёю, а зьверху можна (хоць гэта не абавязкова) насьцілаць і салому. Калі торп прасякнецца жыжкаю, яго трэба прыбраць у асобнае месца для захаваньня, а на яго месца кладуць новы пласт і г. д.

Калі жывёла ўсю зіму стаіць на гнаі, дык можна тарпяную падсьцілку і ня збіраць, а час ад часу паверсе насьцілаць новыя пласты. Торп ужываць трэба толькі сухі.



**Тарпяныя распрацоўкі на Міхановіцкім балоце (Менск. акр.).**

*Кампост з торпу.* Кампост з торпу робіцца такім чынам: кладзецца пласт торпу ў 3-4 вярш. (шырынёю каля 3 арш. і даўжынёю 6-7 арш.). Па торпу кладуць пласт гною такой самай таўшчыні. Потым ізноў кладуць торп і г. д. Калі куча вырасьце ў $1^1/_2$-2 аршыны вышынёю, дык верхні пласт кладуць з торпу. Цераз 6 м-цаў кучу трэба перамяшаць, каб верхні пласт папаў уніз, а ніжні ўверх і каб гной разам з торпам добра перамяшаўся. Пасьля гэтага куча павінна ляжаць яшчэ 6 м-цаў і толькі пасьля таго кампост гатоў для ўжываньня.

Калі кампост прыгатаваны бяз гною, дык яго трэба на дзесяціну каля 4 тысяч пуд. Тарпяна-гнаёвага-ж кампосту даволі і 2.000 пуд. на дзесяціну.

Урэшце, для зразуменьня карысьці тарпянога ўгнаеньня, трэба прывесьці досьледы Горацкай дасьледчай станцыі. Там атрыман ураджай:

без угнаеньня жыта з дзес. . . . . 81 пуд.
па торпу з вапнаю . . . . . . . . . 128 „

Такім чынам зразумела, што сялянам трэба хутчэй распачаць ужываньне тарпянога ўгнаеньня, каб палепшыць ураджаі сваіх палёў.

Аграном **Шульман**.

(М-ка Глуск).

# ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ



## Выбар і догляд племяных сьвіней.

Племяное сьвінаводзтва мае вялікае значэньне ў справе разьвіцьця і ўздыму нашай сельскай гаспадаркі. Шмат гаспадароў кідаюць на племя ў сваёй гаспадарцы сьвіней-матак з мэтай мець парасят, як для сябе, гэтак і на продаж. Справа гэта добрая, трэба толькі клапаціцца, каб сьвіньня прыносіла большы прыбытак і, каб якасьць сьвіней палепшылася.

Пры дрэнным утрыманьні племяных сьвіней матка прыносіць мала парасят, ды к таму-ж дрэнных. Частка такіх парасят гіне, а якія і застаюцца, дык з іх выгадоўваюцца дрэнныя сьвіньні. Год ад году сьвіньні ў такога гаспадара драбнеюць і ў далейшым зусім пераводзяцца. Таму выбар сьвіней мае вялікае значэньне.

Пры выбары сьвіні-маткі трэба, галоўным чынам, зворачваць увагу на бацькоў. Кідаць парасят на племя трэба толькі ад добрых, здаровых сьвіней, якія добра елі, прыносілі ў адным памёце многа і добрых парасят і добра іх выкармлівалі.

У адным і тым-жа памёце бываюць розныя парасяты, чаму патрэбна да выбару іх таксама адносіцца ўважліва. Лепш выбіраць парасят, калі яны падрастуць, бо тады можна ўбачыць іх недахопы і вартасьць.

Пакідаць сьвінку на племя трэба большую. Акрамя велячыні, сьвінка павінна мець добры знадворны выгляд. Сьпіна ў сьвіньні павінна быць роўная, або трохі гарбатая. Ні ў якім разе ня можна пакідаць на племя сьвінку з выгнутай сьпіной, бо гэта сьведчыць аб тым, што ў яе сьпіна слабая і, наогул, што жывёла ня вельмі моцная; аб гэтым-жа сьведчаць тонкая доўгая шыя, вузкія грудзі, тонкія, вузка пастаўленыя, вельмі кароткія, або доўгія ногі; надта маленькая, або непамерна вялікая галава, дрэнная абросласьць шэрсьцю, вялікая курносасьць або занадта выцягнуты лыч і пухкі склад усяго цела.

Зад у сьвіньні павінен быць шырокі, ня зьвіслы і акаркі зьніжацца бліжэй да скакальнага суставу. Гэта сьведчыць аб тым, што сьвіньня на сабе можа адгадаваць больш каштоўнага акарочнага мяса, а гэта вартасьць павінна перайсьці і да дзяцей. Акрамя таго вузказадыя сьвіньні цяжка паросяцца. Пажадана, каб у племяной сьвіньні было ня меньш, як дванаццаць саскоў, бо малая колькасьць іх паказвае на малую малочнасьць і малую пладавітасьць маткі.

Пажадана сьвіней пакідаць на племя з веснавога апаросу, бо за лета сьвінкі, пры добрым утрыманьні, акрэпнуць і бяз шкоды пераносяць сваю першую зіму.

Хлявы для племяных сьвіней павінны адпавядаць наступным запатрабаваньням: павінны быць сухія, сьветлыя, досыць прасторныя, бяз дзірак у сьценах і дзвярох.

Улетку племяную сьвіньню, амаль што ўвесь час, трэба трымаць на дварэ, а ўзімку, як толькі дазваляе надвор'е, выпускаць на пагулянкі. Усё гэта патрэбна для таго, каб выгадаваць здаровую, моцную матку, звычную да нашых суровых, кліматычных умоў і не збалованую лішняй цяплынёй хлева. Сухасьць і добрае асьвятленьне хлева патрэбны сьвіньням дзеля таго, каб у іх не разьвіваўся раматус, якім найбольш хварэюць сьвіньні ў сырых і цёмных хлявох.

У злучку трэба пускаць сьвіней толькі тады, калі яны вырастуць і акрэпнуць. Гэткая пара наступае для нашых мясцовых сьвіней у год, а для сьвіней культурных гатункаў у адзінаццаць месяцаў. Толькі добра разьвіўшыхся сьвіней культурных парод магчыма пускаць у злучку ў дзесяць месяцаў, але ні ў якім разе не раней. Раньняя злучка, ня зусім вырасшых сьвіней, выклікае аслабленьне арганізму, вынікам чаго бывае тое, што такія сьвіньні хутка зношваюцца і становяцца ня годнымі на племя. Таксама яны прыносяць малых і дрэнных парасят і дрэнна іх выкармліваюць, што звычайна бывае ня толькі пры першым апаросе, а і пры пазьнейшых.

У часы цяжарнасьці трэба асабліва сачыць за тым, каб унікаць шпаркай гонкі, удараў, скокаў, што можа выклікаць выкідыш. Цяжарнасьць сьвіней цягнецца каля чатырох месяцаў. Сьвіньні мясцовыя носяць 118—120 дзён, а культурныя 114—116.

За тыдзень, а лепш і за два да апаросу, сьвіньню трэба аддзяліць і паставіць у больш цёплае памяшканьне. Рабіць гэта перад самым апаросам дрэнна тым, што сьвіньня ня ўсьпее прызвычаіцца да новага месца і будзе турбавацца, што можа выклікаць ненармальны апарос. У подсьціл трэба даць шмат мяккай саломы.

За некалькі дзён да апаросу ў сьвіньні пачынаюць набухаць і чырванець перш саскі, а потым знадворныя часьці радавых органаў. Перад самым апаросам сьвіньні пачынаюць рабіцца непакойнымі і рыюць сабе ў саломе бярлог.

Патугі ў сьвіней бываюць доўгія і цягнуцца іншы раз да шасьці гадзін. Гэты час сьвіньню трэба пакінуць у супакоі і толькі ў тым выпадку, калі патугі працягнуцца далей паказанага тэрміну, патрэбна зьвярнуцца да вэтэрынара.

Нарадзіўшымся парасятам у той-жа час абрываецца пупавіна, каля вяршка даўжынёй і кончыкі прыпякаюцца ёдам. Пры гэтым трэба каб рукі былі чыста вымыты. Затым парасят абціраюць ад сьлізі мяккай анучкай, кладуць у кошык ці ў скрынку з дробнай мяккай саломай і пакрываюць чым небудзь цёплым, прычым трэба сачыць, каб яны не затхнуліся.

Пасьлед, а таксама мёртвароджаных парасят, трэба зараз-жа прыбраць, бо сьвіньня можа ўсё гэта зьесьці, што дрэнна адбіваецца на яе здароўі, акрамя таго праз гэта часамі паядаюцца і жывыя парасяты. Бываюць выпадкі, калі сьвіньні маюць прывычку паядаць сваіх парасят. Каб гэтага ня было, трэба ўлетку пасьвіць сьвіней на добрых пашах, даваць у корм досыць мінэральных матэрый, як мага больш разнастайны корм і ні ў якім разе не даваць у корм сырога мяса. Акрамя таго парасят зараз-жа пасьля апаросу аднімаюць ад маткі і ў першыя 3—4 дні, 6—8 раз на дні, праз пэўны працяг часу, падпускаюць да маткі. За гэты тэрмін парасяты акрэпнуць і сьвіньня іх ня зьесьць; таксама вымазваюць парасят чым небудзь пахучым: нафтай, газай, або крэалінай, каб пахам адбіць ахоту ў сьвіньні к паяданьню сваіх дзяцей.

Парасяты ў адным памёце бываюць ня роўныя і дзеля таго, каб выраўняць памёт, парасят першы раз падпушчаюць слабых к больш малочным саском, а лепшых парасят к меньш малочным саском. Заўважана, што парасяты ўвесь час кармленьня пад маткай ссуць тыя саскі, да якіх яны былі прыложаны ў першы раз. Звычайна ў сьвіней бываюць больш малочным сярэднія саскі.

Часта маткі прыдушваюць парасят. Асабліва часта гэта трапляецца з маладымі і ажырэўшымі сьвіньнямі. Каб ухіліцца ад гэтага, ужываецца наступнае: парасят зараз-жа пасьля апаросу адымаюць ад маткі і потым, пакуль яны добра не акрэпнуць і ня зробяцца больш спрытнымі, разоў 6—8 на дні падпушчаюць да маткі; у памяшканьні, дзе знаходзіцца сьвіньня з парасятамі, каля сьцен робяцца поручкі, вышынёй 25 сантым., адлегласьць іх ад сьцен 25—30 сантымэтр. У подсьціл даецца дробная салома, або буйная саломеная сечка, у якой парасяты ня будуць заблытвацца.

(Сьвіная станцыя Н.-Д. Інстытуту).

**А. Сьмірноў.**

---

# Рабеце могілкі для скаціны!

Па вёсках часта на выгане, пры дарозе ў канаве валяецца падла, пачынаючы ад каня і канчаючы кошкай, якія нярэдка падохлі ад заразных хвароб: сібірскай язвы, насацізны, сухот, шалёнства і інш.

Гэтая падла пад уплывам сонца пачынае гніць і разам з гэтым разводзіць заразных мікробаў, якія заражаюць і глебу, і ваду, і паветра. Трупы прываблiваюць да сябе раі мух, птах і сабак, якія ядуць падлу і паўсюду разносяць заразу і гэтым выклікаюць пошасныя хваробы жывёлы.

Сялянства павінна дапамагчы вэтэрынарам у іх барацьбе з заразай. Трэба каб паўшая жывёла была закопана.



**Могілкі для паўшае жывёлы.**

У тых гаспадарках, дзе былі заразныя хваробы скаціны, дзе дохлі сьвіньні, птушкі, альбо буйная скаціна ад сібіркі, насацізны чумы і інш., трэба з хлявоў выбраць увесь чыста гной і перад тым, як вывазіць яго на пашу, добра перамяшаць з вапнай, бяручы яе ад 2-х да 4-х пудоў на 40 пудоў гною (на конскі гной меньш, на кароўі больш).

Падлогу ў хлявох і ў стойлах трэба густа пасыпаць вапнай і перакапаць, а пасьля зноў выраўняць і ўтрамбаваць. Сьцены і столь трэба добра папырскаць растворам вапны. Усе раменныя часткі збруі

трэба вымазаць дзёгцем, войлачныя часткі спаліць і замяніць новымі, а вяроўкі апусьціць на 4-6 гадзін у рашчыну крэоліну (гарбатную лыжку крэоліну на бутэльку цёплае вады).

Трупы падохшае скаціны трэба закапваць на асоба адведзеных месцах т. зв. *скацкіх могілках* і на глыбіню *ня меньш 3-х аршынаў*.

Вось чым сяляне могуць і павінны дапамагчы вэтэрынарам у іх барацьбе з заразаю і тым самым уберагчы сваю жывёлу ад заразных хвароб.

## Дзе трэба рабіць могілкі для скаціны?

Могілкі для скаціны павінны быць ў кожнай вёсцы. Калі вёскі знаходзяцца блізка адна каля аднае, дык могілкі можна рабіць адны на 2-3 вёскі.

Месца пад могілкі выбіраецца сухое, далей ад сядзібы, выгану, праежджых дарог, рэчак і вазёр.

Могілкі павінны быць абгароджаны і вакол выкапаны глыбокі роў. Праз роў трэба зрабіць масток для праезду і вароты.

Для вывазкі трупаў трэба зрабіць асобныя драбіны на ўсю вёску.

Перад тым, як палажыць труп на калёсы трэба на іх накідаць лапак і зямлі, каб кроў і іншыя нячыстоты, якія выцякаюць з скаціны, ня капалі-б на двары і па дарозе.

Труп трэба так пакласьці на калёсы, каб галава і зад яго ня звісалі з калёс.

Пасьля кожнае перавозкі трупа, калёсы абліваюць растворам чорнай карболаўкі ці беляць вапнай.

Трэба заўсёгды глядзець, каб могілкі былі ў парадку: кожны год вясною трэба папраўляць абгародку, каб скаціна не магла прабрацца на могілкі. Вакол могілак выкапаць глыбокі роў і глядзець, каб ён не засыпаўся.

Кожны труп, касьцяк, які будзе валяцца на полі, трэба прыбраць і закапаць на могілках. Пры закопваньні трэба разрэзаць ўздоўж скуру і абліць труп чорнай карболаўкай.

Труп трэба закопваць ў зямлю глыбока (ня меньш 3-х аршын), каб яго не маглі выдраць адтуль сабакі ці ваўкі.

У яму трэба накідаць старога суччa, валежніку і г. д. і над самай ямай зрабіць невялікую насыпку (з $1/2$ арш. вышыні).

Вэтэрынарны ўрач **М. Жарын**.

---

**Заўвага.** У № 4 часопісі, па недагляду друкарні, на першай старонцы вокладкі надрукована 1929 год, замест 1928.




# Аднаўленьне садоў.

(*Перапрышчэпліваньне*).

Калі мы ўпэўнены ў тым, што адпаведны сорт у садзе не здавальняе патрэбаў рынку і не дае прыбытку—тады паўстае пытаньне аб перапрышчэпліваньні ўжо існуючых дрэў лепшымі, больш ураджайнымі, таварнымі сартамі. Большасьць каштоўных сартоў яблынь, ігруш і г. д. да нас зьявіліся з замежаў, з Заходня-Эўропэйскіх краін, дзе ўмовы клімату больш спрыяюць росту саду, чым у нас. Таму ў нас, здаецца, што калі пладавыя дрэвы замежных сартоў высаджваюцца ў неадпаведных глебах і умовах клімату, дык яны праз 15—20 год гінуць. У Мазыршчыне, Случчыне, Паўднёвай Бабруйшчыне мы сустракаем шэраг замежных сартоў яблынь, ігруш, сьліў і г. д., якія дасягаюць 30—40 гадовага ўзросту, добра ўраджайны і маюць здаровыя штамбы з вялізнымі каронамі. Дзічок-падвой, штамб і асновы галін павінны зьяўляцца найбольш трывалымі адносна хістаючыхся зьмен пагоды (у вельмі сьцюдзенныя зімы). Мясцовы падвой-палёўка, штамб і галіны антонаўкі вельмі трывалы, яны вытрымліваюць да 30° марозу. Яшчэ лепш, калі дрэва выведзена з дзічкі, мае дзікі штамб, а галіны запрышчэплены адпаведнымі каштоўнымі сартамі. *Замежныя сарты, запрышчэпленыя ў карону, дзікага штамбу, альбо трывалай антонаўкі, у нашых умовах добра акліматызуюцца, г. зн., што ня гінуць ад значных марозаў і наогул ад няспрыяючых умоў клімату.*

У верасьні 1927 году ў Валасовічах каля Бабруйску ў гр. Барцянкова мы бачылі 1 гэктар новага саду з яблынь-дзічак, якія ўлетку былі загільзованы ў карону гэткімі каштоўнымі сартамі, як пармэн зімовы залаты, ранэт шэры і г. д. Лепш перапрышчэпліваць дрэвы з моцнай драўнінай (як антонаўнка), пакуль сад малады.

Трэба ведаць, што калі перапрышчэпім галіну ў 2 сантымэтры (½ вярш.), дык рана зарасьце (зусім злучыцца з чаранком) праз 2 гады, рана ў 3—4 сантым. (да 1 вяршка ў таўшчыню) праз 3 гады, у 6—9 см. ($1^1/_2$—2 вярш.) у 4—5 год.

Рана ў 3 вяршкі нават праз 8—12 год можа астацца ня зусім заплыўшай, але гэта не перашкаджае дрэву даваць добрыя ўраджаі.

Ня ўсе сарты яблынь добра перапрышчэпліваюцца, бо, напрыклад, „Наліў белы“, „Салодкае белае“—цяжка загойваюць раны.

У дрэў, якія абраны для перапрышчэпліваньня, трэба раньняй вясной, калі толькі пачынае зыходзіць сьнег, адрэзаць садовай пілкай усе асноўныя галіны на $^2/_3$ іх даўжыні. Калі сокі пачнуць рухацца—яны будуць затрымлены ў штамбу і ў пакінутых частках галін. Калі настане пара перапрышчэпліваньня,—зусім адрэзваюцца непатрэбныя часткі галін і пакідаюцца гэткай даўжыні асновы карон, якія патрэбны для ўстанаўленьня зрэзаў (чаранкоў). Зрэзы трэба каб былі падрыхтаваны ў сакавіку, альбо ў пачатку красавіка *з найбольш ураджайных, здаровых дрэў адпаведнага сорту.* Чаранкі адрэзваюцца аднагадовыя, досыць тоўстыя, з добрай высьпэўшай драўнінай.

Як памянёна вышэй, вельмі лёгка і з посьпехам перапрышчэпліваюцца маладыя дрэвы. У Слуцку ў 1927 годзе ў садзе гр. Кабычкіна мы бачылі шэраг перапрышчэпленых яблынь узросту 50—65 год з добрымі вынікамі. Гэты стары сад паступова адраджаецца і вельмі ўздымае таварнасьць яблык дзякуючы сорту бойкэн і вельмі акуратнаму догляду.

Лепшы спосаб перапрышчэпліваньня будзе пад кару. Калі кара пачынае лёгка адставаць (гэта будзе, напрыклад, у Аршаншчыне каля 5—8 траўня, а ў Мазыршчыне раней), бярэцца раней падрыхтаваны чаранок, з якога зрэзваецца вяршынка. На ніжэйшай частцы чаранка робіцца касы зрэз у разы тры даўжэй за таўшчыню. Такі чаранок з 3-мя пучкамі (вочкамі) ўстаўляецца пад кару асноўнай галіны, якая трохі падрэзваецца (удоўж кары). Калі галіна значнай таўшчыні, то ўстаўляюцца *2* чаранкі, моцна перавязваюцца лыкам і месцы прышчэпкі замазваюцца садовым варам (2 часткі смалы, I частка воску і $^{1}/_{2}$ часткі нясоленай бараньняй тлушчы; варацца каля 1 гадзіны ў чыгунчыку). Застыўшы вар накладваецца таўшчынёй як папера акуратна на раны і на вяршыну чаранка. Калі ўлетку асобныя галінкі ад чаранкоў дасягнуць да 3 вяршкоў, трэба павязку зьняць і налажыць новую і сачыць, каб лыка ня ўрэзвалася ў кару. Чаранок падвязваецца да кіёчку (гл. мал.). У першае лета пры належным доглядзе за дрэвам (перакопка глебы, угнаеньне) атрымліваецца ўжо прырост, а праз 3 гады новы сорт зацьвітае. Бойкэн нават праз два гады можа даць плады.

Сталы садавод гр. Кабычкін з Слуцку, які больш 30 год займаецца аднаўленьнем старога саду, піша нам:.. Пры ўмелым вядзеньні працы, магчыма рашуча, бяз рызыкі, раіць перапрышчэпліваць дрэнныя сарты яблынь на лепшыя сарты ў сялянскіх садох".

Наогул, пры пашырэньні якога-небудзь новага, таварнага, каштоўнага сорту—мы раім пачынаць з перапрышчэпліваньня, з вывучэньня і прыстасаваньня да нашых умоў.

Праф. **М. Бурштэйн**.

---

# Гадуйце сваё капуснае насеньне.

Добра схованыя вырваныя галоўкі праз усю зіму ў склепе, вясною, як толькі падсохне крыху глеба, пачынаюць садзіць (галоўкі вырваныя з каранямі). Глебу пад высадкі трэба перакапаць і зраўнаць. Высадкі садзіць трэба адна ад адной у адлегласьці аднаго аршына, засыпаюць яе ў глебу на тую глыбіню, на якой яна расла ў леташнім годзе. Перад пасадкай лісьце галоўкі з качана абразаюць асьцярожна, не зразаючы нічуць качана. Граду пасьля пасадкі трэба прыкрыць гноем, лепш перапрэўшым. У працягу лета догляд за высадкамі бывае такі: пульхненьне глебы, як каля самай расьліны, так і паміж імі і полка травы. З пасаджаных качаноў скора з-пад абрэзаных лістоў, выйдзе да дзесяці сьцяблоў; самымі моцнымі і лепшымі будуць верхавыя. Сьцяблы слаба дзержацца каля качана, лёгка абломваюцца ветрам, за гэтым каля кожнае высадкі ставіцца па 4 калы кругом і абвязваюць расьліну мачалам або вяровачкай. Некаторы раз столькі вырасьце ад качана сьцяблоў, што апошні ня ўсілах усіх выкарміць; шмат звяжацца насеньня, а прыгодных да пасеву будзе мала. Каб гэтага ня было, трэба ніжэйшыя сьцяблы абламваць сумысьля. Насеньне капусты расьце ў струкох. Як толькі струкі пераменяць сваю зялёную афарбоўку на

шэрую і будуць лёгка ламацца ў руцэ, тады насеньне зьбіраюць ці цэлымі расьлінамі, калі ўсе сьцяблы дасьпелі, ці асобнымі часткамі. Дасьпеўшыя складаюць у мяшок і падвешваюць, каб яны прасохлі. Стручкі пераціраюць рукамі і такім чынам атрымоўваюць насеньне. З адной расьліны зьбіраюць да чвэрткі лота насеньня, што каштуе капеяк 50—80. Насеньне трэба хаваць у сухой хаце. Насеньне капусты мае ўсходжасьць у працягу 5 год. Супроць зямельнае блыхі, абсыпаюць вапнаю расьліны і кругом парніка ці грады. Трэба наглядаць за насеньнем капусты, каб ня шкодзілі ёй куры і другія птушкі.

Насеньне капусты можна лёгка выгадаваць у сваёй гаспадарцы. Праўда, зразу разганяцца няма чаго, бо каб пасадзіць шмат насенных высадкаў, трэба крыху ведаў, вялікая акуратнасьць і шматгадовая практыка, але пачынаючы з маленькага, можна дайсьці і да выгадоўкі некалькіх пудоў насеньня. Праца гэта жывая, цікавая і лёгкая; можа яе выконваць стары. Тут заўсёды будзе добрае насеньне для засеву свайго гароду, а пасеяўшы добрым насеньнем атрымаеш і добры ўраджай капусты

Сел. **А. Карнейчык**.

---

# Напад, альбо пчаліны крадзеж.

У бяз'узятачны час вясною часта наглядаецца напад пчол на слабыя і бязматачныя сем'і.

Некаторыя пчаляры ў такіх выпадках абвінавачваюць свайго суседа пчаляра, кажучы што гэта ён „наслаў“ загаворам сваіх пчол на маіх.



Пчельнік Я. Мароза.

У сапраўднасьці-ж прычынаю нападу зьяўляецца неаккуратнасьць самога пчаляра. Калі пры падхарчоўцы пчол разьліць каля вульля корм, альбо не скараціць ляток пасьля вясновага аблёту пчол, то можа ўзьнікнуць напад.

Прыметы напада наступныя: каля вульля пачынаюць лётаць пчолы, якія шукаюць шчэляк, каб залезьці праз іх у вулей.

Звычайна пчолы—зладзеі шукаюць перш лёгкай дабычы, г. зн. слабых і бязматачных сем'яў, якія ня могуць даць належнага адпору. Вылятаючую з вульля пчалу-зладзейку можна пазнаць па тым, што, калі слаба надушыць на жывоцік пчалы, яна выпускае праз рот капельку мёду.

Калі пчаляр сваечасова ня прыме мер супраць нападу, то напад можа разьвіцца па ўсей пасецы пры чым адбудзецца вялікая бойка паміж пчоламі.

Галоўная небясьпека нападу будзе ня ў тым, што пчол абкрадуць,—гэта лёгка можна паправіць, а ў тым, што нападаючыя пчолы заб'юць матку ў абкрадваемым вульлі, для таго каб пчолы страцілі стойкасьць і такім чынам робяць сям'ю бязматачнай.

Для папярэджаньня ўсіх гэтых няпрыемнасьцяў, якія могуць узьнікнуць, дзякуючы нападу пчол, трэба прыняць некатарыя папярэджваючыя меры, а іменна: трымаць толькі моцныя сем'і,—слабых і бязматачных злучаць разам, пры аглядах ня трымаць вульлі доўга адчыненымі, падхарчоўку пчолам даваць асьцярожна, каб ня разьліць і абавязкова на нач, і ня трымаць шырока адчыненымі ляткі (ня больш як на 3—4 пчалы).

У выпадку, калі напад ужо ўзьнік, то трэба скараціць ляток на столькі, каб праходзіла ня больш 1—2 пчол і адганяць нападаючых пчол дымам з дымара, альбо вадою з шпрыца.

Пры слабым нападзе гэтага хопіць, каб крадзеж спыніўся.

Пры моцным нападзе трэба зарашоціць ляток і аднесьці абкрадваемы вулей у цёмны, халаднаваты хлеў, а на яго месца паставіць парожні вулей з памазаным газаю лятком. Праз 1—3 дні вулей з пчоламі можна ўвечары вярнуць на старое месца, а парожні прыбраць з пасекі.

С. С—н.

# Вынікі досьледу туты і скарзанэры.

Даведаўшыся праз тав. Вяршука аб досьледах, якія вядуцца Інбелкультам у галіне прыродазнаўства, я рашыў прыняць удзел у яго досьледах аб туце і скарзанэры. Насеньне памянёных расьлін я атрымаў ад т. Зьбіткоўскага. У канцы лютага я пасадзіў у скрынцы частку насеньня скарзанэры і туты, але насеньне туты ня ўзышло, а скарзанэры ўзышло некалькі каліў. Пасьля гэтай няўдачы, я рашыў пасеяць рэшту таго і другога насеньня ў парніку. Насеньне ўзышло, хаця і ня ўсё. Калі тута і скарзанера падрасьлі, я высадзіў іх на гранку, дзьве сотні першае і дваццаць скарзанэры.

Глеба ў мяне суглінкавая, але я прысыпаў трохі пяску і клаў дробнага гною. Вынікі такія: штук 30 дрэўцаў туты вырасьлі па 14 см., 150 па 10 см., а 20 па 4 см. Апошнія найменьшыя, узышлі ў канцы траўня м—ца.

Акрамя гэтага вясной я атрымаў ад. т. Зьбіткоўскага сем аднагадовых дрэўцаў туты і восем каранёў. Адно дрэўца вырасла ў 90 см., тры па 83 см. і тры па 54 см. Ад скарзанэраў-жа сабраў каля 12 грам насеньня.

Селянін Ф. Д. Мастовіч.

Самахвалавіцкі раён.

# Аб шоўкавіцы, скарзанэры і шоўкаводзтве.

Шоўкаводная прамысловасьць на Беларусі знаходзіцца ў сувязі з мажлівасьцю культуры на яе абшарах тутавага, ці іначай, шоўкавічнага дрэва, лісьцямі якога кормяць гусяніц тутавага шоўкапрада (шоўкавічных чарвей). Там дзе расьце тутавае дрэва, мажліва і шоўкаводзтва.

Гэты промысел з даўных часоў пашыран у Туркастане і на Каўказе. У Туркастане, напрыклад, шоўкаводзтвам занята 150 тыс. дэкханскіх (сялянскіх) гаспадарак, а на Каўказе каля 500 тысяч сямей. Прыбытак ад памянёнага промыслу ў Туркастане складае больш 12 мільёнаў р. у год.

На Эўрапэйскай частцы СССР шоўкаводзтва ня мела такога пашырэньня, як на Каўказе ці ў Туркастане, але ўсё-ж на поўдні яно займае значнае месца. Гэтак у 1913 годзе тут было сабрана каля 7000 пуд. сухіх коканаў, з якога ліку на Кіяўшчыну прыпадае 864 пуд. У сумежнай з Беларусьсю Чарнігаўшчыне раней рабілася спроба ўвядзеньня шоўкаводзтва. Аб гэтых спробах сьведчаць тыя пасадкі тутавага дрэва, якія тут захаваліся.

Ад часу ўтварэньня ў Маскве ў 1922 г. шоўкаводнае станцыі гэты промысел пашыраецца зараз і ў Маскоўскай прамысловай вобласьці.

На Беларусі шоўкаводзтва зусім мажліва. Аб гэтым сьведчыць налічча вялікіх дрэў шоўкавіцы, якія добра растуць у парках і садох ня толькі ў паўднёвай, але і ў паўночнай частцы Беларусі (напр. у Малых Дручанах, Полацкае акр., б. маёнтках Нізгалава той-жа акр. і г. д.). Аб гэтым-жа сьведчаць, праўда, адзіночныя, але досыць добра ўдаўшыяся спробы выкарму шоўкавічных чарвей, што мела месца ў некаторых пунктах Беларусі (напр., у Церахоўцы, Гом. акр., а таксама Зарэччы, каля Горак, Слуцк. акр.).

Для разьвіцьця на Беларусі мажлівасьці шоўкаводзтва неабходна пашырыць пасадкі тутавага дрэва і разводзіць скарзанэру. Акрамя гэтага прызначэньня, тутавае дрэва можа мець і іншае прымяненьне— яго плады ўжываюцца для яды, лісьце ідзе на корм жывёле, а само дрэва гадзіцца для розных вырабаў. Маючы ў дадатак досыць пекнае лісьце, яно такім чынам мае ўсе даныя для таго, каб стаць распаўсюджаным прысялібным дрэвам. Дзякуючы свайму шпаркаму росту, яно гэтым вельмі прыгодна для бязлесных раёнаў, дзе адчуваецца недахоп у дрэве. Пасаджанае насеньне гэтага дрэва ўжо праз 7 год разрастаецца ў дрэўца, якое выкідвае цьвет і дае плады. Для шоўкаводзтва прыгодна ўжо з 10—12 год. Вельмі прыгодна для сялібных асадак і жывой загарадкі. Разводзіцца таксама добра чаранкамі (сучкамі). Цені ня любіць і лепш удаецца на лёгкіх угноеных глебах.

*Скарзанэра* (Scorzonera hispanica)—расьліна травяністая. У першы год яна дае толькі лісьце, а насеньне прыносіць на другі год. Лісьце скарзанэры, як і шоўкавіцы, зьяўляецца кормам для шоўкавічнае чарвы. Акрамя таго, карэньне скарзанэры ўжываецца як гароднiна.

Разводзіцца вельмі проста. Рана вясной высяюць насеньне на гранкі радамі чвэрці паўтары адзін ад другога і на чвэрць зерня ад зерня. Пасеянае насеньне лёганька засыпаюць невялікім дробам пульхнае глебы (на $^1/_4$ вярш. таўшчыні). Глеба для гэтае расьліны павінна быць лёгкая і апрацована вярш. на 10 у глыбіню. Восеньню карэньне скарзанэры можна пакідаць на гранках, абы выкапваць і аб-

рэзаўшы лісьця захоўваць таксама, як моркву ці бульбу да вясны, калі іх зноў высаджваюць на гранкі.

Шоўкаводзтва асабліва прыгодна для дробных гаспадарак, дзе яно не адбіраючы значнага часу, пры самых невялікіх ведах аб гэтым занятку, можа даваць значны прыбытак у гаспадарцы.

Выкормка чарвы цягнецца дзён 30—35 і прыпадае прыблізна на чэрвень месяц. Нескладаныя прылады, патрэбныя для шоўкаводзтва не патрабуюць аніякіх затрат і могуць быць зроблены дома. Шоўкавыя коканы зьяўляюцца вельмі каштоўным прадуктам, які патрэбен для цэлага шэрагу шоўкаапрацовачных промыслаў—хатніх, саматужных і фабрычных.

Для спробы розных сартоў туты і для высьвятленьня, напрыклад, таго, як гэта дрэва расьце ў розных частках Беларусі, шмат могуць зрабіць сяляне-дасьледчыкі, завёўшы ў сваіх гаспадарках некаторыя пасадкі туты і скарзанэры, паведамляючы потым аб выніках сваіх спроб.

Тым, хто зацікавіцца пытаньнем аб шоўкаводзтве ў БССР, можа быць прыслана насеньне і сеянцы туты і насеньне скарзанэры.

Зьвяртацца па адрасу: Менск, Шырокая 28. Н. А. Зьбіткоўскаму.

**Зьбіткоўскі.**

---

## С.-г. хроніка.

**Наладжваем рыбную гаспадарку.** У Рагачоўскім раёне ёсьць 15 вазёр, якія займаюць немалую плошчу. Да вайны тут рыбная гаспадарка была вельмі наладжана, а цяпер, дзякуючы нашай нядбайнасьці, дык нават і ракі зьвяліся. У гэтым годзе зроблены крокі да аднаўленьня гэтай галіны народнай гаспадаркі. Пры РВК арганізована каапэрацыйнае рыбалоўна-рыбаводнае таварыства, у якім ужо налічвяецца 80 сяброў. Т-ва паставіла сваёй мэтай ня толькі наладзіць рыбаводзтва, але і ахову рыбы ад зьнішчэньня і разьвядзеньне лепшых таварных гатункаў рыбы.

Мяркуецца ў бліжэйшы час набыць невад, палавіць трохі рыбы, зрабіць такім чынам зварот, а потым рабіць крокі да штучнага разьвядзеньня таварных гатункаў рыбы. Наогул, захады зроблены, трэба іх падтрымаць, а нашым урадавым установам паклапаціцца аб выданьні належных законаў па эксплёатацыі ня толькі вазёр, але і рэчак і такім чынам, пакласьці шлях аднаўленьня народнай гаспадаркі—рыбаводзтва.

**Арганізавалі птушкаводнае т-ва.** Для таго, каб паставіць на належную вышыню птушкаводзтва ў нашым Рагачоўскім раёне, арганізована птушкаводнае т-ва, якое ставіць сваёй мэтай разьвядзеньне тых гатункаў кур, якія найбольш прыгодны. Ужо закуплена некалькі кур, прывезеных з-за межаў, каб выявіць лепшыя гатункі мясцовых парод птушак, як курэй, гусей і г. д. Абвешчан конкурс 2 мая, дзе адбудзецца выстаўка птушкаводзтва. Такім чынам меры па аднаўленьню гаспадаркі—птушкаводзтва ўзьняты, установам земадзелаў трэба гэта падтрымаць.

**Я. С.**

---

**Выданьне Наркамзему.** Адк. рэд. **Зьм. Прышчэпаў.**

Рэд. кол. *Э. Русецкі, Шукевіч, А. Смоліч, Саф. Хоміч, Сьц. Тупяневіч.*



# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1928 год

НА СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧУЮ ЧАСОПІСЬ

# „ПЛУГ“

**ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| На год | 2 р. 20 к. | На 3 м-цы | 60 к. |
| На 6 м-цаў | 1 „ 10 „ | Паасобны нумар | 20 „ |

**ГАДАВЫЯ ПАДПІШЧЫКІ „ПЛУГА“ за 1928 г. АТРЫМАЮЦЬ У ПРЭМІЮ АДНУ С.-Г. БІБЛІАТЭЧКУ ПА ВЫБАРУ:**

1-ая прэмія—б-ка з 12 кніг; 2-ая прэмія—настольны сельска-гаспадарчы каляндар на 1928 год; 3-яя прэмія—б-ка з 6 кніг; 4-я прэмія—агранамічная б-ка.

**Па выбару гадавога падпішчыка прэмія будзе рассылацца дарэмна, калі падпіска зроблена толькі праз рэдакцыю „ПЛУГА“.**

**Гадавыя камплекты „ПЛУГА“ за 1926 і 1927 г. можна выпісаць за 50% падпісной платы (1 р. 10 к.).**

*Заказы на старыя № № „ПЛУГА“ і іншыя выданьні НКЗ накіроўваць: Менск, Савецкая, 71, Выдавецтва НКЗ.*

# ВЫШЛА З ДРУКУ і прадаецца ва ўсіх кнігарнях БДВ КНІГА

**„ДЗЕЙНАСЬЦЬ УРАДУ БССР за 1926/27 год“ у выданьні Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады БССР, Менск, 1927 г.**

**Кніга зьмяшчае зборныя даныя аб стане ўсіх галін гаспадаркі і культуры БССР за справаздачны год і аб дзейнасьці Ураду і зьяўляецца вельмі каштоўным, поўным і найноўшым матар'ялам па БССР па даных на 1 студзеня 1928 г.**

**Дадаткам да кнігі дадзены сьпіс усіх гарадзкіх месточковых і сельскіх саветаў, схэматычная карта адміністрацыйна-гаспадарчага падзелу БССР, таксама па даных на 1 студзеня 1928 г.**

**Выдадзена кніга на добрай паперы, разьмерам усяго 21 друкаваны аркуш каштуе 2 руб.**

**:: :: КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР**

409

ЦАНА 20 КАП.

## Выданьні Наркамзему

1. **Атабекянц.** *Шляхі бэконізацыі сьвінаводзтва БССР.* 1927 г. 32 стар. ц. — 15 к.
2. **Праф. Ліскун.** Агульная жывёлагадоўля. 1926 г. 140 стар. . ц. — 70 к.
3. **Проф. И. Кулагин.** Красный Белорусский скот. 1923 г. 18 стар. . ц. — 5 к.
4. **Праф. А. Чалінцаў.** Аб рахунковым аналізе сельскае гаспадаркі. 1924 г. 68 стар. . . . . . . . . ц. — 40 к.
5. **Праф. Штэйнберг.** Практычнае гародніцтва. 1924 г. 136 стар. . ц. — 60 к.
6. **Я. Пачопка.** Як узгадаваць і даглядаць сад. 1923 г. 72 стар. . . ц. — 20 к.
7. **Л. Калікінскі.** Лубін і яго культура. 1924 г. 40 стар. . . . ц. — 20 к.
8. **С. Н. Тупяневіч.** Спосабы барацьбы з кілою капусных расьлін. 1927 г. 32 стар. . . . . . . . . . . . ц. — 25 к.
9. **С. Тупяневіч і Заяц.** За лепшую сельскую гаспадарку. 1926 г. 78 ст. ц. — 25 к.
10. **М. Лайкоў.** Аб складаньні пераходных табліц на шматпольле. 1926 г. 20 стар. . . . . . . . . . . ц. — 25 к.
11. **С. Тупяневіч і А. Дзямідовіч.** Вывучэньне тэхнікі сялянскага ральніцтва. 1926 г. 28 стар. . . . . . . . ц. — 25 к.
12. **А. Михайлов.** Очерк развития агрономической помощи в БССР. 1923 г. 28 стар. . . . . . . . . . ц. — 10 к.
13. **П. Бойко.** Что должен знать переселенец о Д. Востоке и Сибири. 1927 г. ц. — 25 к.
14. **З. Скоморохов.** Что должен знать крестьянин о лесе. 1925 г. 70 ст. ц. — 25 к.
15. **И. Седашев.** Лесное хозяйство. 1923 г. 15 стр. . . . ц. — 5 к.
16. **С. Ждановіч і Ярашчук.** Характарыстыка сельскай гаспадаркі Беларусі. 1926 г. 140 стр. . . . . . . . . . ц. — 70 к.
17. **Б. Бабицкий.** Производственные минимумы в крестьянском хозяйстве БССР. 1927 г. 54 стар. . . . . . . . . . ц. — 25 к.
18. Сельское хозяйство БССР и мероприятия по его восстановлению. 1925 г. 80 стр. . . . . . . . . . . ц. — 25 к.
19. **Л. Ивицкий.** Перечень действующего земельного законодательства БССР. 1927 г. 26 стр. . . . . . . . . ц. — 15 к.
20. Земельный кодекс БССР с узаконениями, правилами и инструкциями. 1927 г. 354 стр. . . . . . . . . . ц. 2 р. 60 к.
21. **Проф. Пичета.** История сельского хозяйства и землевладения в Белоруссии до конца XVI века. 1928 г. 180 стр. . . . ц. 1 р. 80 к.
22. **Перспективный план НКЗ** на 1925—30 г. в выпусках. 1927 г. 960 стр. ц. 3 р. 55 к.
23. **А. Д. Дубах.** 1) Изменения профиля осушительных канав с течением времени. 2) Урожай трав на канализованном болоте. 3) Нарастание мха и торфа на болоте. 4) М. Л. Лейвиков. Рост сосны на канализованном болоте. 1926 г. 86 стр. . . . . . . ц. — 65 к.
24. **К. К. Киселев.** Водный режим реки Орессы. 1926 г. 40 стр. . . ц. — 40 к.
25. **В. Г. Касаткин.** Почвенная характеристика заболоченных пространств Белорусского Полесья. 1926 г. 48 стр. . . . . . ц. — 30 к.
26. **В. В. Адамов** *и* **И. К. Ярошевич.** Обзор растительности Белорусского Полесья. 1927 г. 96 стр. . . . . . . . . ц. — 50 к.
27. **Н. С. Фролов.** Вопросы экономики мелиораций. 1926 г. 160 стр. . ц. — 80 к.
28. **А. Д. Дубах.** Пути к уточнению проектирования осушительных работ. 1927 г. 52 стр. . . . . . . . . . ц. — 30 к.
29. **Н. М. Савич.** Результаты гео-ботанических исследований в быв. Рогачевском уезде. 1926 г. 140 стр. . . . . . . ц. — 80 к.
30. **В. Г. Петровский.** Мелиоративные товарищества Белоруссии. 1926 г. 150 стр. . . . . . . . . . . . ц. — 55 к.
31. **Т. Анціпенка.** Прыборка, захаваньне і перавозка бульбы. 1927 г. 30 стар. . . . . . . . . . . . ц. — 12 к.
32. **С. М. Тупяневіч.** Сялянскі с.-г. досьлед па БССР. 1927 г. 32 стар. . ц. — 15 к.
33. **Аб лесе і торпе.** 1928 г. 20 стар. . . . . . . ц. — 12 к.
34. **Ч. А. Бялюнас.** Жыцьцё і гадоўля лесу. 1928 г. 48 стар. . . ц. — 50 к.
35. **С. І. Журык.** Халоднае сіласаваньне. 1928 г. 24 стар. . . ц. — 15 к.

**Заказы накіроўваць:** *Менск, Савецкая, 71, Выдавецтва Н. К. З.*